+тэлепраграма № 36 (298) 27 верасьня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



## Тры творы Быкава



Чытайце ў наступных нумарах "Нашай Нівы" новыя творы Васіля Быкава: "Рэдкі дар", "Помнік ад дэмакратыі", "Мурашкі".

### Рэйтынг А.Лукашэнкі 27%

**Рэйтынг А.Лукашэнкі зьнізіўся да 27%.** Такія зьвесткі падае НІСЭПД. З апытаньня вынікае, што кіраўнік дзяржавы страціў падтрымку часткі ранейшых прыхільнікаў, але пакуль яшчэ не пераканаў тую частку грамадзтва, што выступае за рэформы.

### 5 даляраў на беларуса

**Сукупны капітал 35 беларускіх страхавых кампаніяў меншы за 50 млн. даляраў.** Гэта па 5 даляраў страхавога ўнёску ад кожнага беларуса. У Польшчы на кожнага грамадзяніна прыпадае па 140 даляраў унёску, у найбяднейшай краіне ЭЗ Партугаліі — 670 даляраў. Такія зьвесткі паведаміў гендырэктар "Белзамежздзяржстраху" Юры Гаўрылаў.

### Кожны чацьверты

**На сёньня ў Беларусі карыес — у кожнага чацьвертага дзіцяці 5—6 гадоў,** тады як гадоў 30 таму інтэнсіўнасьць карыесу была ў два разы ніжэйшая. Пра гэта паведаміў галоўны стаматоляг краіны Пятро Левус.

# Няпэўны і няўпэўнены



Год ураду Навіцкага

Старонкі 4, 5

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

рэпартаж



Старонка 10

## Барадулінскае лета

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Жыцьцё для Ясьмін

18-гадовы жыхар Глазга, студэнт мэдыцыны Джонатан Джэснэр стаў адной з шасьці ахвяраў тэракту ў Тэль-Авіве 19 верасьня. Адказнасьць за акцыю палестынца-камікадзэ ўзяў на сябе "Хамас". Ёні Джэснэр атрымаў сьмяротную траўму галавы. Дактары яшчэ дзень змагаліся за ягонае жыцьцё, ды марна — хлопец скануў у тэль-авіўскім шпіталі Ічылаў.

Але сьмерць Джонатана ня сталася чарговым каменем у муры між арабамі й жыдамі, які ўзводзіўся з часу аднаўленьня Ізраілю. Наадварот — яна можа стацца пачаткам ягонага разбурэньня. Бо нырка Джонатана была перасаджаная сямігадовай арабскай дзяўчынцы Ясьмін Абу Раміле з Усходняга Ерусаліму, што пакутуе на прыроджаны дэфэкт гэтага органу. Дзяўчынка два гады чакала на прыдатную нырку. Перасадка прайшла пасьпяхова. "Я ня ведаю, як аддзячыць сям'і, пацярпелай ад выбуху. Яны падаравалі жыцьцё маёй дачцэ". — кажа Рына, маці Ясьмін. Дзядуля дзяўчынкі Фарук дадае: "Нырка ўзятая ад жыда, але цяпер гэта назаўжды частка яе самой. Мы спадзяёмся, што Ясьмін акрыяе і здолее сустрэцца зь сям'ёй Ёні".

Джонатан прыехаў у Ізраіль на год павучыцца ў ешыбоце Гуш Эцыён. Для гэтага ён адклаў на год сканчэньне мэдычнай вучэльні ў Глазга. Ён марыў, давучыўшыся ў Шатляндыі, назаўжды пераехаць у Ізраіль. Хлопец кіраваў жыдоўскай моладзевай дэлегацыяй пры шатляндзкім парлямэнце. На прэсавай канфэрэнцыі ягоны брат Ары Джэснэр заявіў, што Ёні быў бы шчасьлівы даведацца, што некаму дапамог нават пасьля сьмерці.





REUTERS

# Адказ “тамбоўскаму дэмакрату”

**Чытаць таленавітага аўтара заўсёды цікава. Тым больш калі ён закранае блізкую табе тэму і цябе асабіста. Эсэ С.Дубаўца пад эпатуючым загалоўкам *“Тамбовский демократ”* дарма зьмешчанае на старонцы “Палітыка”, бо пераважаюць у ім эмоцыі, а не цьвярозы і рацыянальны аналіз. Ужо неаднойчы спрабаваў я ўнесьці яснасьць у панцьце і сэнс апазыцыі, пратэстуючы супраць недыфэрэнцыяванага выкарыстаньня гэтага тэрміну, бо апазыцыя — разнастайная й супярэчлівая структура. Я пратэставаў супраць яе недаацэнкі і прыніжэньня, бо апазыцыя — першы інструмэнт дэмакратыі, які набыла Беларусь. Пра што пісала б “НН”, калі б не было апазыцыі?**


IREX-PROMEDIA

Сп.Дубавец піша: ” Апазыцыйнасьць спадара Хадыкі і ягонае партыі — гэтая ніякая і ні для кога не каштоўнасьць...” Іншымі словамі, ён сьцьвярджае, што беларусы не гатовыя да дэмакратычнага палітычнага ладу, які патрабуе наяўнасьці альтэрнатывы кіроўчай эліце

Магчыма, сп.Дубавец адмаўляе ў каштоўнаснай сутнасьці толькі партыі БНФ. Але Беларускі народны фронт быў першай дэмакратычнай арганізацыяй, якая праклала сабе шлях пры таталітарнай сыстэме, калі яшчэ не было іншых дэмакратычных партыяў. У студзені 1989 г., выступаючы на першым дазволеным мітынгу на стадыёне “Дынама”, я параўнаў БНФ з конным авангардам войска ВКЛ, які пачаў бітву пад Грунвальдам атакаю праз воўчыя ямы. Сказаў, што па нашых галовах прыйдуць новыя ваяры да перамогі свабоды і дэмакратыі. Я і сёньня сьцьвярджаю, што сваю місію БНФ выконвае мэтанакіравана, добрасумленна і ахвярна.

Мы ніколі не былі пэрсаналісцкай апазыцыяй. Я адкідаю намёк, быццам бы для нас “сьвет... сыходзіцца клінам на ППРБ”. Мы былі і ёсьць радыкальнай, але разумнай і гнуткай апазыцыяй. Нагадаю, што ў 1992 г. БНФ выступіў з ініцыятываю стварэньня Антыкрызіснага камітэту, у які ўвайшлі і В.Кебіч і С.Шушкевіч. І мы ніколі не адкідалі магчымасьці кампрамісу з уладаю. Калі ў 1999 г. пад ціскам міжнароднай супольнасьці А.Лукашэнка пайшоў на кантакты з апазыцыяй, мы былі самымі актыўнымі ўдзельнікамі КРАПП — структуры, створанай для перамоў па чатырох пытаньнях дэмакратызацыі беларускага рэжыму. Зь якіх сп.Сяргей таксама дарма кпіць, бо гэтыя ўмовы неабходна выканаць, каб Беларусь пераўтварылася з аскепка зьніклай савецкай імпэрыі ў нармальную краіну, незалежнасьць якой гарантуецца ня толькі адзіным чалавекам, пра што ён піша слушна і з трывогаю.

Тут і высьвятляецца асаблівая грамадзкая роля апазыцыі. Рэжым трапіў у складанае становішча. Яго галоўны палітычны і эканамічны рэсурс — імпэрскія колы Расеі — праявілі незадавальненьне расплывістай і пераменлівай пазыцыяй А.Лукашэнкі. І фактычна выставілі яму ўльтыматум, непрымальны ні для ППРБ, ні для дэмакратычнай апазыцыі.

Таму ўжо месяц дзяржаўныя СМІ вядуць эфэктыўную прапаганду незалежнасьці. Нас з Аляксандрам Рыгоравічам падзялялі тры грунтоўныя праблемы — незалежнасьць Беларусі, прававая дэмакратычная дзяржава і адраджэньне нацыянальнай культуры. Сёньня адна зь іх здымаецца. Мы мусім стрымана вітаць гэты працэс, добра разумеючы, што для А.Лукашэнкі сувэрэнітэт Беларусі — гэта найперш сувэрэнітэт яго ўлады.

Калі незалежніцкая рыторыка А.Лукашэнкі ня жарт і ня гандаль, яму неабходна тэрмінова шырэй расчыніць дзьверы на Захад. Апазыцыя можа эфэктыўна дапамагчы яму ў гэтым. Адмова ад інтэграцыйнай рыторыкі і патрыятычная прапаганда могуць разглядацца як гатоўнасьць да пакрокавай стратэгіі дэмакратызацыі. Гэтую стратэгію даўно прапаноўваў нам і Ганс-Георг Вік, і шматлікія эўрапейскія эмісары. Таму пачатак перамоў будзе толькі вітацца заходнімі дэмакратыямі. На гэтых перамовах апазыцыя будзе выступаць ужо ня ў якасьці беднага родзіча, бо менавіта яна працяглы час дамагалася ізаляцыі рэжыму. Калі мой прагноз спраўдзіцца, гэта і стане пераканаўчай ілюстрацыяй неабходнасьці апазыцыі. Яшчэ больш яна будзе неабходная, калі за незалежнасьць давядзецца змагацца на вуліцы. Яна неабходная нават у тым выпадку, калі Лукашэнка паспрабуе аднаасобна мабілізаваць грамадзкую думку. Прапаганда мае посьпех, калі трапляе на ўзараную глебу. А апазыцыя шмат гадоў рыхтавала гэтую глебу.

У адным я цалкам згодны са сп.Дубаўцом — у скептычнай ацэнцы зьвестак сацыялягічных апытаньняў. Сацыёлягі яшчэ ня вынайшлі інструмэнту, які б выключаў фактар страху. Паводле зьвестак НІСЭПД, не баяцца выказваць сваю думку толькі 15—20%. 50% лічаць, што баяцца большасьць ці наагул усе! У такой сытуацыі падказкаю зьяўляецца ня толькі мова апытальніка, але і сэнс пытаньня, і стаўленьне да гэтага пытаньня ўлады.

У такой сытуацыі ладзіць рэфэрэндумы немагчыма, бо яны вымагаюць поўнай інфармаванасьці насельніцтва і яго высокай палітычнай культуры.

Сп.Дубавец слушна адзначае: “Спадар Хадыка ніколі ня будзе ствараць тое, што называлася б партыяй улады” Я ня буду ствараць і кампрамісную Канстытуцыйную партыю. Няма ніякай патрэбы. Бо маляваць БНФ як тупагаловую апазыцыю — і памылкова, і шкодна. А што тычыцца ахвотнікаў ствараць новыя партыі, дык гэткія спробы не ўдаліся ня толькі А.Лукашэнку, але і такому энтузіясту, як Сініцын. У чым нядаўна ён шчыра прызнаўся. Драбленьне партыяў, якое мы назіраем апошнім часам, ёсьць праявай нізкай палітычнай культуры. Калі аказваецца прасьцей раскалоцца, чым вырашыць праблему шляхам галасаваньня.

Я заклікаю сп.Дубаўца проста далучыцца да Партыі БНФ. Разам мы будзем і мацнейшымі, і разумнейшымі.

**Юры Хадыка**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Палітычны крызыс у дачыненьнях беларускага й расейскага кіраўніцтва ня мог не адбіцца на дзейнасьці спэцслужбаў дзьвюх дзяржаваў. Неўзабаве пасьля дэпартацыі зь Беларусі ў Расею чачэнскага палявога камандзіра наша краіна зноў “засьвяцілася” ў скандалах, зьвязаных са спэцслужбамі. На гэты раз справа выглядае больш сур’ёзнай.**

# Гульні спэцслужбаў

На мінулым тыдні “*Комсомольская правда*” надрукавала сэнсацыйную навіну. Аказваецца, адказнасьць за выкраданьне віцэ-прэзыдэнта “Лукойла” Сяргея Кукуры ўзяло на сябе “Беларускае вызвольнае войска” (БВВ). Расейскія праваахоўныя органы і падумаць не маглі, што ў Маскве нахабна дзейнічаюць “беларускія баевікі”. У той жа час, у згаданай публікацыі дапускаецца, што да выкраданьня могуць мець адносіны беларускія спэцслужбы. У Кукуры меркавалася атрымаць зьвесткі пра карупцыю сярод расейскіх чыноўнікаў...

Сяброў незарэгістраванай патрыятычнай арганізацыі “Белы легіён” пачынаюць цягаць на допыты ў МУС і КДБ. Прычына — актывізацыя ейнай дзейнасьці, правядзеньне адмысловага летніка, рэпартаж зь якога ў №32 зьмясьціла “НН”, і, напэўна, нядаўняя жорсткая антыінтэграцыйная заява “Легіёну”. Як паведамляе арганізацыя ў сваім “адкрытым лісьце”, яе сяброў запалохваюць, спрабуюць вэрбаваць, прымушаюць прызнаць свой удзел у падрыве ў 1997 г. газаправоду Таржок—Менск—Івацэвічы. Як вядома, тады адказнасьць за той выбух узяло на сябе ўсё тое ж БВВ.

Калісьці, пасьля замахаў на прэзыдэнта Грузіі Шэварднадзэ, заходнія СМІ распаўсюдзілі інфармацыю з амэрыканскіх крыніцаў пра дачыненьне да іх “сеткі ФСБ у Беларусі”. Нібыта на нашай тэрыторыі рыхтаваўся прынамсі адзін з замахаў. Тады на гэтую інфармацыю амаль не зьвярнулі ўвагі. Нядаўна пра гэтую таямнічую “сетку” зноў згадалі замежныя СМІ — у зьвязку з рашэньнем “размарозіць” яе, нібыта прынятым сёлета ў Маскве, якая перастала давяраць беларускаму кіраўніцтву. А ў панядзелак, 23 верасьня, kavkaz.org зьмясьціў зацемку пра здабытыя чачэнскай разьведкай сэнсацыйныя весткі. Нібыта ФСБ рыхтуе “буйнамаштабную правакацыю” — узрыў сабору Васіля Блажэннага ў Маскве, які выканаюць два чачэнцы-крымінальнікі. Для нас цікава тое, што, паводле інфармацыі сайту незалежнікаў Ічкерыі, чачэнцам за работу абяцаныя ня толькі грошы, рэабілітацыя, але й “далейшае бясьпечнае пражываньне на тэрыторыі Беларусі”. Як тут не згадаць нядаўна дэпартаванага намесьніка Салмана Радуева, якога не хацела прымаць Расея. Ці не за нейкія заслугі ён адпачываў у Беларусі?

Пакуль у “дыялёгу” прэзыдэнтаў Беларусі і Расеі назіраецца зацішша, “у бой” уступілі спэцслужбы. Беларускія спрабуюць даказаць, што таксама чагосьці вартыя, а расейскія вядуць складаныя гульні, у адпаведнасьці з “расейскімі стратэгічнымі інтарэсамі” ў нашай краіне. Напэўна, абодва бакі зусім ня супраць, каб, “гуляючы”, падставіць пад удар беларускія патрыятычныя сілы. Інакш пры чым тут БВВ?

**Павал Сумарока**

# Нашы сумленьнікі

**Паэт, эсэіст і крытык Леанід Галубовіч прызнаўся, што яго можна назваць штрэйкбрэхерам, але свой прыход у “ЛіМ” тлумачыць неабходнасьцю працаваць на Беларусь. Што ж за Беларусь такую мае на ўвазе сп.Галубовіч? “Вось жа і пад камуністамі яна неяк існавала...” Значыць, яго задавальняе нейкая — ні Богу сьвечка ні чорту качарга — Беларусь. Праўда, ён выдумляе тое, чаго не было: быццам камуністы ўсяляк ціснулі на Беларусь. Па-першае, з 1922 г. ніхто ня ставіў пытаньня пра ўваходжаньне Беларусі ў склад Расеі. Па-другое, *ніводзін* камуніст ня мог дазволіць сабе *публічна* сказаць пра беларускую мову тое, што дазволіў сабе дзяяч, які заняў “вельмі незалежніцкую позу”. Менавіта — позу, а не пазыцыю.**

Сп.Галубовічу, калі б ён быў пасьлядоўны, трэ было б прызнаць, што “вельмі самастойна” паводзіцца ў размовах з Масквою гэтаму палітыку дазваляюць незалежніцкія настроі ў беларускім грамадзтве, да культываваньня якіх гэты палітык ня меў ніякага дачыненьня. Сам жа сп.Галубовіч прызнае, што незалежнікам гэты палітык стаўся пасьля таго, “як не атрымаўся ў яго “бліцкрыг” з паходам на маскоўскае крэсла”. А калі б удаўся? Дый хто гарантаваў, што пры істотнай пераменe сытуацыі ў Расеі гэты дзеяч не захоча зноў зьдзейсьніць “бліцкрыг”? Сам жа сп.Галубовіч прызнае, што “незалежніцкая поза” гэтага палітыка ня ёсьць беларускаю.

Слоўную блытаніну і няпэўнасьць дапамагае нам разблытаць “лімаўка” Людміла Рублеўская: яна шчыранька прызнаецца, што пайшла на супрацоўніцтва з “*Советской Белоруссией*” дзеля пенязяў. Астатнія ейныя аргумэнты — таксама ад нячысьціка. Яе зусім не бянтэжыць, што тая самая дзяржава, якая трымала на галоднай дыеце “ЛіМ”, уваднача сытна карміла “Саўбелію”. Яна кажа, што газэту чытаюць 500 тысяч беларусаў, быццам ня ведае пра шчодрыя субсыдыі і ведамасную падпіску (дзяржава за нашыя грошы газэту выдае і за нашыя ж грошы на яе падпісваецца — чым не маліна?).

Гэты факт, здавалася б, добра вядомы былому карэспандэнту радыё “Рацыя” сп.Віктару Корбуту. Віншую яго й спн.Рублеўскую зь вялікім адкрыцьцём. Ад іх я даведаўся, што ў “Саўбеліі” — “высокі ўзровень журналістыкі”, што яна “трымае прыстойны ўзровень”. Раю спн. Рублеўскай і сп. Корбуту



зірнуць хоць бы на 16-ю старонку таго самага нумару “НН”: там апавядаецца, як галоўны рэдактар “Саўбеліі” ўхіляецца ад судовае адказнасьці за паклёп на чалавека, які за Беларусь (ня нейкую, а дэмакратычную) сядзеў.

Марна суцяшаюць сябе спн. Рублеўская і сп.Корбут: яны ўжо пераступілі тую маральную мяжу, за якою пачынаецца калябарацыя дзеля грошай. І сп.Галубовіч дарма кажа, што, калі б ён не прыйшоў у “ЛіМ”, прыйшоў бы хтосьці горшы. Гэтак пры Хрушчову-Брэжневу апраўдвалі свой прыход у КПСС тыя літаратары, што ўладкоўвалі свой побыт. Сп.Галубовіч, які сышоў з тэлебачаньня на знак пратэсту супраць нападак “на нашыя сымбалі, на мову, на ўсё нацыянальнае”, цяпер, як вынікае зь ягоных паводзінаў, згодны на тое, каб не было, як і пад камуністамі, ні сымбаляў, ні мовы, ні іншага нацыянальнага. Абы грошы.

Я разумею гэтых людзей: ідэалы ідэаламі, але трэба самому есьці і дзяцей карміць, самому апранацца і дзяцей апранаць, за жыльлё-электрычнасьць плаціць... Разгарнуцца прыватнай ініцыятыве дзяржава не дае, непадкантрольную чыноўнікам прыватную ўласнасьць нішчыць, а хочацца мець гарантаваныя кус хлеба й скварку. Нічога не застаецца, як схіліць гордую шыю. Дык трэба пра гэта й казаць. Бралі б нашыя сумленьнікі прыклад з Івана Шамякіна ды Аляксея Дударава. Тыя з падзякаю прынялі прэміі гэтак званае саюзнае дзяржавы, бо ім патрэбныя грошы. Карэспандэнту радыё “Свабода” Іван Пятровіч так і сказаў: калі выбіраць паміж славаю й грашыма, я выбіраю грошы. А вось асобныя пасьлядоўнікі партыйнага сачыніцеля Шамякіна яшчэ не такія шчырыя, іх трохі заядае сумленьне. Думаю, з часам гэта пройдзе.

**Анатоль Сідарэвіч**

ліст у рэдакцыю

# Маем справу з падрадчыкам?

Пра “пагаршэньне” стасункаў між Менскам і Масквой ужо панапісвана багата. Днямі сустрэў знаёмага навукоўца, шчырага адраджэнца. Дык той пачаў пераконваць, што трэба падтрымаць аднаго вядомага палітыка ў Менску, бо той, бачце, стаў “незалежнікам”. Але ж гэтае “пагаршэньне” ня што іншае, як спрэчка паміж заказчыкам і падрадчыкам. Падрадчыку даручалася “інтэграваць” Беларусь з Масковіяй. Узамен абяцалася першае месца ў Крамлі. І падрад выконваўся старанна. Але ў Крамлі адбыліся зьмены. Новы заказчык заявіў: а гэта ня я дамаўляўся пра такую плату. Тым больш што тавар ужо з душком... І разгарэлася спрэчка, як паміж цыганамі, што гандлююць коньмі. Заказчык прапануе цану мінімальную — месца расейскага губэрнатара. Падрадчык патрабуе па максымуме — “сувэрэнны” суб’ект у адзінай саюзнай дзяржаве. На маю думку, часовы ўсплёск паперна-слоўнага “незалежніцтва” ня што іншае, як спроба зноў узьняць цану на свой тавар.

Аднак ня выключана, што і падрад яшчэ ня цалкам выкананы. Бо ў газэтных шапіках, сярод соцень расейскамоўных выданьняў, яшчэ можна сустрэць адно-два беларускія, дый школ беларускіх крыху захавалася...

Дык на чым зацікаўленыя бакі могуць паразумецца? Як і ў кожным гандлі — на нечым сярэднім. У дадзеным выпадку — на статусе аўтаноміі, як Татарстан.

**Я.Мехавіч, Менск**

# “Дзеднава” — для амэрыканца нябеднага

## У бабруйскага бровара і “Півaварні Івана Таранава” цяпер адзін уладальнік

20 верасьня зьявіўся першы амэрыкана-беларускі бровар: кампанія *“Detroit Brewing”* атрымала 76% акцыяў бабруйскага бровару “Дзеднава”. Нягледзячы на ўдалую рэкламную кампанію (“піва “Дзеднава” — для багатага і беднага”), якая дапамагла падвысіць продаж бабруйскага піва на 40%, бровар ніяк ня мог сплаціць свае запазычанасьці (3,5 млрд. рублёў) ды працаваў толькі на пятую частку ад сваіх вытворчых магутнасьцяў.

Бабруйскі бровар быў заснаваны ў 1976 г. Сёлета яго перарабілі на акцыянэрнае таварыства. Амаль усе акцыі забрала сабе дзяржава ў асобе камітэту “Магілёўаблмаёмасьць”. Працаўнікам бровару аддалі толькі 2%.

На сходзе акцыянэраў “Дзеднава” было вырашана адмовіцца ад кантрольнага пакету акцыяў на карысьць інвэстыцыяў. Інакш кажучы, дзяржава зразумела, што ня зможа ўтрымаць “Дзеднава” ад банкруцтва. Амэрыканцы ж абяцаюць укласьці ў бровар 12 млн. даляраў. Згодна з дамовай, яны павінны сплаціць усе ягоныя пазыкі, падвоіць колькасьць працоўных месцаў, а таксама выдаткоўваць штогод 3 млн. даляраў на акцызныя зборы. Толькі багатая амэрыканская кампанія змагла дазволіць сабе такую раскошу: іншыя прэтэндэнты на “руку” бабруйскага бровару жадалі мякчэйшых умоваў.

“Detroit Brewing” валодае ў Расеі пяцьцю заводамі “Бровары Івана Таранава” ды займае 2,5% расейскага піўнога рынку. Акрамя свайго старога гатунку “Дзеднава”, бабруйскі бровар будзе вырабляць піва “Піт”, “Доктар Дызэль” ды “Гэсэль” па аўстрыйскай ліцэнзіі, а таксама мінэральную ваду. Цікава, што ў “Detroit Brewing” зь “Дзеднавым” усё прайшло гладка, тады як у “Балтыкі”, якая жадала набыць “Крыніцу”, нічога ня выйшла, хоць розьніцы паміж кампаніямі няшмат: “Baltic Beverages Holding” (“Балтыка”) нават для Расеі такая самая замежная кампанія, што і “Detroit Brewing”. Праўда, на перамовы ў “Дзеднава” прыяжджалі не амэрыканцы, а эмісары “Бровараў Івана Таранава”. Відаць, весьці справы ў “Дзеднава” будуць усё-такі расейцы, але за амэрыканскія грошы.

Карэнна расейскі піўны бізнэс можа прыйсьці ў Беларусь разам з маскоўскай кампаніяй “Ачакава”. Яна жадае набыць Слуцкі бровар, які таксама стаіць на мяжы банкруцтва. Лукашэнка, ад якога залежыць кожны значны інвэстыцыйны праект, вось ужо паўтара году вагаецца. 23 верасьня ўрад пастанавіў, што ў хуткім часе ўсё замежнае піва, якое ўвозяць у Беларусь, мусіць займець акцызныя маркі, а значыцца, зробіцца больш дарагім (прыкладна на 30%). Расейскія бровары ў шоку — 40% усяго піва, што прадаецца ў нас, прывозяць менавіта з Расеі. Магчыма, гэта спроба прымусіць замежныя кампаніі любым коштам набываць у Беларусі бровары, бо экспарт піва ў Беларусь зробіцца нявыгадным.



ЗЬМІЦЕР САПАЎ

**Алесь Кудрыцкі**

### на тыдні

#### Крытыка Закону пра рэкляму

**Рэдактары 17 найбуйнейшых газэтаў краіны напісалі ліст прэм’еру Навіцкаму з крытыкай урадавага праекту Закону пра рэкляму, які можа выклікаць рэзкае зьмяншэньне рэклямных прыбыткаў прэсы.**

#### Літоўцы зноў ваююць

**40 літоўскіх камандас вылятаюць у Аўганістан.** Згоду на гэта даў літоўскі Сойм. Супраць былі крайне левыя і працоўнікі ўступленьня краіны ў *NATO*.

#### Гарачая восень Кучмы



Пасьля пасьпяховага захопу тэлебачаньня 49 дэпутатаў Вярхоўнай Рады Ўкраіны прарваліся ў рэзыдэнцыю Кучмы. “Бэркут” спыніў іх на сходах між другім і трэцім паверхамі — на шляху да кабінэту прэзыдэнта. Проста на сходах яны і абвесьцілі галадоўку. Кучма вымушаны быў сустрэцца зь імі, каб сказаць: у адстаўку я не падам. Во каб Беларусі такую апазыцыю!

**Б.Т.**

# Бестэрміновасьць у адносінах



IREX-PROMEDIA

**Прадпрымальнікі Беларусі зьбіраюцца аднавіць бестэрміновы страйк. Перамовы лідэраў прадпрымальнікаў з урадам зайшлі ў тупік.**

Аб’яднаная рада прадпрымальнікаў (АРП) абвесьціла страйк яшчэ 1 верасьня, аднак праз тыдзень усе прадпрымальнікі выйшлі на працу: пачаліся перамовы з урадам. Але вынікаў яны ня мелі. Паводле АРП, ніводнае іхнае патрабаваньне Саўмін ня выканаў. Галоўныя патрабаваньні прадпрымальнікаў — адмяніць абавязковае ўвядзеньне касавых апаратаў і сацыяльнае страхаваньне, зьменшыць арэндную плату за гандлёвыя месцы. Прадпрымальнікі атрымалі толькі вусныя абяцаньні галоўнага архітэктара Менску, што сталічныя рынкі “Трактар”, “Чэрвеньскі” і “Байкальскі кірмаш”, якія ўлады меліся сёлета зачыніць, прапрацуюць яшчэ і 2003 г.

Таму Аб’яднаная рада папрасіла аўдыенцыі ў Аляксандра Лукашэнкі, “каб канчаткова высьветліць, як прэзыдэнт ставіцца да прадпрымальнікаў”. Адзін зь лідэраў АРП Анатоль Шумчанка заявіў, што новы бестэрміновы страйк пачнецца 1 кастрычніка й працягнецца... тыдні два, пасьля чаго прадпрымальнікі зноў паспрабуюць пачаць перамовы з урадам. Калі і яны скончацца безвынікова, з 1 лістапада прадпрымальнікі зноў ня выйдуць на працу.

Страйкі балюча адбіваюцца на бюджэце. “Штомесяц мы кладзём у дзяржаўную скарбонку 20 млн. даляраў: сплачваем адзіны падатак ад 80 даляраў і вышэй (на выставах — да тысячы), а ў сярэднім па краіне — 120 даляраў. Плюс грошы за арэнду”, — кажа А.Шумчанка.

Прадпрымальнікі таксама страцяць ад прастою, але сёньняшняе становішча трывае не жадаюць. Адзін толькі касавы апарат каштуе 200—400 даляраў. А яго ўсталяваньне цягне за сабой неабходнасьць мець разьліковы рахунак у банку. І любую фінансавую апэрацыю — а дробныя бізнэсоўцы праварочваюць за дзень некалькі гэткіх гешэфтаў — трэба праводзіць праз банк, адстойваць там чэргі. Банкаўскае ж абслугоўваньне разьліковага рахунку абыходзіцца ў 9% ад зьмешчанай на ім сумы. Каб разабрацца ў справаздачнасьці, прадпрымальніку давядзецца яшчэ наймаць бухгальтара.

Пра штрафы — асобна: за парушэньне парадку прыёму наяўных грошай трэ будзе плаціць 25—50 базавых велічыняў (1 б.в. — 11000 руб.), па разьліковым рахунку — 10 базавых велічыняў.

Яшчэ адна болевая кропка — адсутнасьць агульных ставак адзінага падатку: у Заслаўі бяруць 70 эўра, на менскіх рынках — 5. Права вызначаць памеры падатку перададзенае мясцовай вэртыкалі.

Не жадаюць прадпрымальнікі плаціць грошы і за абавязковую сацыяльную страхоўку. Урад вымушаны быў працягнуць тэрмін выплаты ўнёскаў. “Не заплацім у час — тэрмін працягнуць яшчэ”, — сьцьвярджае А.Шумчанка.

У адносінах ураду і прадпрымальнікаў, як бачым, запанавала поўная бестэрміновасьць.

**Глеб Хмяльніцкі**

### з усёй краіны

#### Буйная аўтааварыя

**17 верасьня а 4-й раніцы вёска Вялікая Гаць, праз якую праходзіць шаша Івацэвічы—Пінск, абудзілася ад страшэннага грукату.** Кіроўца “КамАЗу” выехаў на паласу сустрэчнага руху і зьбіў легкавік “Фальксваген-Пасат”. Загінулі прыватны таксыст, жыхар Івацэвічаў Васіль Папко, і чатыры ягоныя пасажыркі: тры жанчыны з Татарстану і адна — зь Ніжагародзкай вобласьці, якія ехалі ў Пінск па мясцовы трыкатаж. Ад іншамаркі засталася куча мэталалому. Кіроўца “КамАЗу” не спыніўся, а наадварот, прыбавіў газу. Міліцыянты затрымалі яго ў лесе за 10 кілямэтраў ад месца аварыі. Расеец Глеб Іваноў з Таганрогу быў у нецьвярозым стане, ён зьмешчаны ў ізалятар часовага затрыманьня. Пра дарожную трагедыю паведамлена паслу Расеі ў Беларусі. За сьледзтва ўзяўся сьледчы камітэт МУС па Берасьцейскай вобласьці.

**Алесь Лаўранюк, Івацэвічы**

#### Разбураны апошні вятрак

**Моцны вецер зьнёс вятрак у вёсцы Адэльск (Гарадзеншчына), якому было больш за 200 гадоў.** Ад яго засталіся адныя гранітныя жорны. Пасьля другой сусьветнай вайны, пакуль не пачалася жорсткая калектывізацыя ў “заходнікаў”, каля вёскі стаяла 10 ветракоў, а ўвогуле вакол Горадні іх было пад 30.

IREX-PROMEDIA

#### У больніцы не заляжышся

**На тысячу скарацілася колькасьць месцаў ва ўстановах сыстэмы аховы здароўя Гарадзеншчыны.** Адбылося гэта ў рамках абласное праграмы “пераарыентацыі мэдычнай дапамогі насельніцтву”. Сярэдні тэрмін знаходжаньня хворых у больніцах паменшаў з 13 да 12,5 дня. Павялічылася колькасьць дзённых стацыянараў, што дазволіла зьнізіць колькасьць выклікаў “хуткай” амаль на 7%. Надалей будуць арганізаваныя стацыянары аднаго дня: апэрацыя ў больніцы з наступным далечваньнем хворых ва ўмовах паліклінікі, што дазволіць эканоміць значныя сродкі.

**Андрэй Мялешка, Горадня**

#### Bambist

**U Baranavičach, prykładna a 23-j hadzinie, kala baru na vuł. Kamsamolskaj, 4 nieviadomy kinuŭ vybuchovaje prystasavańnie pad “Mersedes” raniej sudzimaha žychara horadu.** Bambist uciok. Achviara teraktu zastałasia žyvaja, mašyna atrymała paškodžańni.

#### Zatrymali rekieciraŭ

**Baranavickija milicyjanty zatrymali złačyncaŭ, jakija teraryzavali žančynu-pradprymalnicu.** Jany prymušali kabietu płacić im pa 50 dalaraŭ štomiesiac. Taja nia vytrymała j źviarnułasia ŭ milicyju. Dvuch złačyncaŭ zatrymali, jašče dva paśpieli pachavacca.

#### Epidemija ŭ škole milicyji

**U baranavickaj škole milicyji adbyłasia epidemija. 57 kursantaŭ z kryvaŭkaj na minułym tydni byli špitalizavanyja.** U samoj škole ŭviedzieny karantyn — astatnich nie adpuskali na vychodnyja dachaty. Zachvareli budučyja milicyjanty ci to ad pitnoj vady, ci to z-za stałoŭki.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

#### Платная даведка

**Паслугі гарадзенскай гарадзкой тэлефоннай даведачнай службы сталі платныя.** Кошт адной даведкі ўдзень складае 20 рублёў, уначы (ад 22.00 да 7.00) — 40. Гарадзенская вобласьць — першая пасьля Менску, дзе былі ўведзеныя платныя паслугі гарадзкой даведкі.

**Алеся Сідлярэвіч, “Нёман-Інфарм”**

## Дамейкі ў Мядзьвядцы



**12 верасьня ў Мядзьвядцы (Карэліцкі р-н) быў усталяваны бюст Ігната Дамейкі аўтарства Ігара Голубева і Генадзя Лойкі. Адкрыцьцё помніка адбылося ў рамках сьвяткаваньня Дамейкавага 200-годзьдзя, арганізаванага пад эгідай ЮНЭСКА. На радзіму славутага беларуса з Чылі прыехалі прадстаўнікі роду Дамейкаў (на здымку).**

# Навіцкі — няпэўны

## *Год мінуў з часу прызначэньня Генадзя Навіцкага прэм'ер-міністрам. "НН" прапануе чытачам кароткі агляд дзеяў ягонага ўраду*

**1 кастрычніка 2001 г. нечакана для ўсіх кіраўніком Саўміну прызначаюць Генадзя Навіцкага. Ён абвяшчае, што рэфармаваньне беларускай эканомікі бязбольна правесьці ня ўдасца. Навіцкі ўпершыню афіцыйна прызнае наяўнасьць значнага бюджэтнага дэфіцыту і зазначае, што грошай на яго пакрыцьцё ўзяць няма дзе. Праблемы эканомікі ў гэты пэрыяд стаяць асабліва востра з-за наступстваў выбарчай кампаніі прэзыдэнта.**

Першы свой замежны візыт Генадзь Навіцкі робіць у сярэдзіне кастрычніка не ў Расею, а ва Ўкраіну — абмяркоўвае пытаньні ўкраінскіх запазычанасьцяў, праблемы экспарту беларускіх нафтапрадуктаў і цукровыя "войны".

### Позірк на Захад

Пры канцы кастрычніка ўрадавыя экспэрты абвяшчаюць, што для нармальнага разьвіцьця беларускай гаспадаркі патрэбны мільярд даляраў інвэстыцыяў штогод, а ў 2000 г. Беларусь атрымала толькі 90 млн. Ідзе гаворка пра патрэбу прыцягваць замежныя капіталы. Прэзыдэнт яе падтрымлівае. Міністар эканомікі Шымаў ачольвае групу па падрыхтоўцы пляну паляпшэньня інвэстыцыйнага клімату. Шырока абмяркоўваецца патрэба зьніжэньня падаткаў і амністыі капіталу — першых этапаў лібэралізацыі. Урад прымае пастанову аб скасаваньні абавязковага дэклараваньня юрыдычнымі асобамі крыніцаў інвэстыцыяў.

### МВФ ня прыйдзе

У гэты самы час у Менск прыяжджае місія Міжнароднага валютнага фонду на чале з Мартай дэ Кастэля-Бранка. Мэта прыезду — спраўдзіць, як беларускі ўрад выконвае свае абавязацельствы па рэфармаваньні эканомікі, узятыя ўвесну. Прадстаўніцы МВФ не ўдаецца дамовіцца з урадам па асноўных парамэтрах 2002 г. Адмыслоўцы фонду ня вераць абяцаньням каманды Навіцкага. Так, згодна з афіцыйнымі беларускімі ацэнкамі, рост валавога ўнутранага прадукту ў 2002 г. мае скласьці 4—5%, тады як МВФ прагназуе рост усяго 1,5%. Але Навіцкі цьвёрда стаіць на сваім, і таму аніякай праграмы крэдытаваньня не прымаецца.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### "Пасьлядоўнае падвышэньне дабрабыту і забесьпячэньне новай якасьці"

Урад лічыць сваімі задачамі падтрыманьне сацыяльнай стабільнасьці, пераадоленьне наступстваў Чарнобыльскай аварыі, узмацненьне эфэктыўнасьці кіраваньня народнай гаспадаркай. Эканамічныя мэты — стварэньне спрыяльнай макраэканамічнай сытуацыі, падвышэньне інавацыйнай і інвэстыцыйнай актыўнасьці, паляпшэньне сытуацыі ў рэальным сэктары эканомікі, разьвіцьцё сярэдняга й малога бізнэсу. Дэкляруецца намер цягам наступных гадоў зьменшыць падаткі на 5—6%, актыўна выкарыстоўваць працэдуры санацыі і банкруцтва. Урадоўцы падкрэсьліваюць важнасьць супрацоўніцтва з расейскімі інвэстарамі і маркуюць у 2002 г. прыцягнуць 400 млн. даляраў прамых замежных інвэстыцыяў.

7 сьнежня 2001 г. Нацыянальны сход ухваляе ўрадавую праграму. Навіцкі з камандай не распрацоўвалі яе самі, а проста пераназвалі "Праграму сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця краіны на 2001—2005 г.", ухваленую II усебеларускім народным сходам. Галоўнай мэтай эканамічнай палітыкі новы ўрад лічыць "пасьлядоўнае падвышэньне дабрабыту і забесьпячэньне новай якасьці жыцьця беларускага народу".

Задачы канкрэтызуюцца: "павялічыць рэальны заробак на 80—85%, давесьці яго ў канцы 2005 г. да сярэднямесячнага ўзроўню, роўнага 250 далярам". Праграма відавочна непасьлядоўная. Так, дэкляруецца, што будзе выраблена 3,8 млрд. яек, але ня згадваюцца пытаньні прыватызацыі прамысловасьці, запазычанасьцяў, удзелу ў Сусьветнай гандлёвай арганізацыі.

Адметнаю рысай зьяўляецца адсутнасьць разьдзелу аб будаўніцтве саюзнай дзяржавы. Гэта ці недагляд, ці сьведчаньне зьмены стратэгічнага курсу. Яшчэ адным прадвесьцем здаецца заява Навіцкага пра тое, што расейскае кіраўніцтва больш не выяўляе інтэграцыйнага імпэту. Праўда, ужо 26 сьнежня 2001 г. міністар эканамічнага разьвіцьця і гандлю Расейскай Фэдэрацыі Грэф дэкляруе пераход на адзіную валюту з 2005 г.

### Бюджэт

Бюджэт на 2002 г., прыняты ўрадам Навіцкага, засьведчыў, што на лібэралізацыю спадзяваліся дарма. Адметны ён хіба ўпершыню прадугледжанымі выдаткамі на Беларускі экзархат Расейскай праваслаўнай царквы. Сродкі на БПСМ параўнальныя з выдаткамі на ўтрыманьне парлямэнту. Павялічыліся таксама расходы на адукацыю. Прыбыткі ад прыватызацыі прадугледжаныя невялікія: урад не зьбіраецца ажыцьцяўляць яе ў значным аб'ёме.

Слабасьць першага міністра выявілася і ў прыватным выпадку. Напярэдадні свайго арышту дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў напісаў заяву аб звальненьні. У прыватнай размове з Навіцкім і міністрам эканомікі Шымавым ён патлумачыў, што хворы, замарыўся ад шантажу й праверак дый хоча пайсьці з пасады сам. Навіцкі даў гарантыю, што нічога надзвычайнага зь Лявонавым не адбудзецца, і заявы не падпісаў. Пасьля старога Новага году дырэктара МТЗ арыштавалі.

### Лукашэнка пачынае нэрвавацца

21 студзеня прэм'ер-міністар загадвае прадпрыемствам за тыдзень разьлічыцца з запазычанасьцю па заробках і абвяшчае, што ніякіх датацыяў на гэтыя мэты ад ураду ня будзе. Наступствам гэтага кроку сталася 6-працэнтная інфляцыя, тады як у 2001 г. яна складала за той самы пэрыяд у сярэднім 3,2%.

12 лютага А.Лукашэнка на паседжаньні Савету міністраў кажа, што давер да новага ўраду падарваны. З 16 парамэтраў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця выкананыя толькі 5. Асаблівыя папрокі кіраўніка краіны выклікае запазычанасьць па заробках. На 4% зьнізілася рэнтабэльнасьць вытворчасьці, доля бартэрных апэрацыяў за пару месяцаў вырасла ўдвая, а ў разьліках за энэргарэсурсы скокнула больш чым на 50%.

Кіраўнік дзяржавы патрабуе ад ураду неадкладных рашэньняў, што цалкам супярэчаць духу лібэралізацыі, накшталт павелічэньня адказнасьці за нявыплату падаткаў. Надзею прэм'ера папоўніць бюджэт дзякуючы спрашчэньню працэдуры акцыянаваньня прэзыдэнт Бела-

# Рэальнасьць, дадзеная нам у адчуваньнях:

## *год дэградацыі ўраду*

**Год таму Ўладзімера Ярмошына зьмяніў Генадзь Навіцкі. Фармальна нічога не зьмянялася: ад ураду ў нас у краіне мала што залежыць, бо, нягледзячы на быццам бы незалежнае існаваньне, выконвае Савет міністраў пераважна ролю флюгера на даху Адміністрацыі. Менавіта ўрад першы даведваецца пра зьмену напрамку нашага ветру і пачынае сыгналіць грамадзтву і замежным партнэрам пра гэтую зьмену.**

Разам з тым, асоба прэм'ера заўсёды была індыкатарам галоўнага — гатоўнасьці прэзыдэнта і ягонага атачэньня да рэформаў. Першым прэм'ерам быў Міхаіл Чыгір, буйны банкаўскі дзяяч. Можна па-рознаму ацэньваць яго здольнасьць і жаданьне праводзіць у той час рэформы, але наяўнасьць банкіра ў кабінэце кіраўніка ўраду казала заходняму капіталу, што інвэстыцыі можна несьці. Іх несьлі ў Беларусь. Няшмат, вядома: спачатку ўсё-такі прыглядзецца варта.

Потым Чыгіра зьмяніў Лінг. Памяць пра пленумы ЦК КПБ па пытаньні рэфармаваньня сельскай гаспадаркі памацнела ў грамадзкай сьвядомасьці як ніколі.

І вось зьявіўся Ярмошын. Мэр сталіцы, які лічыўся ўмеркаваным рыначнікам, ён і на новай пасадзе заставаўся ранейшым. Ярмошыну ўдалося неймавернае: застаючыся абсалютна верным прэзыдэнту, ён прымусіў паверыць усіх наглядальнікаў у гатоўнасьць ураду да рэформаў. Тое, як упэўнена ён трымаўся побач з Касьянавым (ох ужо гэты "Міша Два Працэнты"!), сьведчыла, што яны размаўляюць на адной эканамічнай мове. Вядома, не пра два працэнты, якія трэба адшпільваць, а пра эканамічнае заканадаўства Беларусі. Гараджанін, ён разумеў, што менавіта буйныя прадпрыемствы зьяўляюцца стабілізатарамі палітычнай сытуацыі ў краіне. Але трэба мяняць тэхналёгіі ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі рынку. Трэба вызваліць беларускія прамысловыя гіганты ад ланцугоў сацыяльнай сфэры і ад перакрыжаванага субсыдаваньня камунальнай гаспадаркі. Ярмошын быў нешматслоўны і пераканаўчы. Беларусы ўспрымалі яго менавіта як свайго.

Ярмошынскае выступленьне на Ўсебеларускім народным сходзе, дзе гаварылі толькі ў рамках неабходнага для перадвыбарнай кампаніі, запомнілася асабіста мне выразам ягонага твару. Ён адарваў вочы ад паперы, паглядзеў паверх акуляраў у залю і, павярнуўшыся да прэзыдэнта, пачаў яго пераконваць: "Аляксандар Рыгоравіч, вызваліце прамысловасьць ад перакрыжаванага субсыдаваньня, і яна ўздыхне на поўныя грудзі!" Сьледам за Ярмошыным пра гэта пачалі казаць ледзьве ня ўсе выступоўцы.

Падобна, якраз гэтага яму і не даравалі. Цяжка дараваць чужую кампэтэнтнасьць. І на зьмену Ярмошыну прыйшоў Генадзь Навіцкі.

Асабіста я стаўлюся да яго вельмі добра. Прыстойны чалавек. Але як прэм'ер — ён не на сваім месцы. Шчырасьці не стае. Навіцкі застаецца беларусам, і, калі ён кажа пра неабходнасьць рэформаў перад тэлекамэрай, адчуваньне такое, што ў кішэні ён усё роўна трымае акуратную дулю. Скажуць рэформы праводзіць — правядзём, ня скажуць — абыдземся.

Найбуйнейшым рэфарматарам ураду Навіцкага глядзіцца аграрны віцэ-прэм'ер Папкоў. Ці то ён высьпеў разам з жытам, ці то і аграрыя можна прымусіць чытаць Мільтана Фрыдмана, але апошнім часам Папкоў прамаўляе надзвычай рынкавыя рэчы. І гэта той самы чалавек, які на першай сваёй нарадзе ў Гомельскай вобласьці нібыта крыў матам чыноўнікаў проста з прэзыдыюму!

Навіцкі ж па-ранейшаму ў меру сваіх сілаў грае прэм'ерскую ролю. Актор другога пляну, старанны чыноўнік, які ўсё жыцьцё нешта будаваў, а таму сам прывык да бясконцых дзяржаўных датацый сваёй галіны (асабліва ў той час, калі Пятро Пракаповіч, які тады яшчэ не ператварыўся ў Бальцаровіча, ваяваў з Багданкевічам і Віньнікавай), ён так і не зрабіўся палітычнай постацьцю, не прадэманстраваў сваёй здольнасьці прыстасоўвацца да рэальных патрабаваньняў эканомікі. Была спачатку нейкая надзея, што менавіта бясколернасьць дапаможа яму проста выканаць загад аб лібэралізацыі. Але загаду не зьявілася. Навіцкі быў і застаўся самім сабой. Ці добра гэта? Ня ведаю. Магло быць і горш — мог быць і Дамашкевіч.

Пакіне Лукашэнка Навіцкага на сваім месцы або здыме — гэта пытаньне зімы і настрою расейскага кіраўніцтва. Будзе ў кватэрах халодна — Навіцкага пастрыгуць пад казла адпушчэньня. Будзе цёпла — прасядзіць яшчэ колькі месяцаў. Але Ярмошына, здаецца, ужо ня вернуць. А шкада.

**Аляксандар Фядута**

# і няўпэўнены

русі называе "прывіднай".

### Поле для лібэралізацыі

Набліжаецца вясна, прэм'ер цешыць нас будучымі ўраджаямі. А кіраўнік Нацбанку Пятро Пракаповіч адкрыта кажа, што цяперашні спосаб правядзеньня пасаўной ставіць пад пагрозу эканамічную бясьпеку краіны: "Тыя 70 млрд. рублёў, якіх сёньня вымагае Мінсельгасхарч, — гэта сума, якая значна пераўзыходзіць магчымасьці беларускіх банкаў". Фінансавы цяжар давядзецца перакласьці на прамысловыя прадпрыемствы. Каб выйсьці з складанай сытуацыі, урад падвышае закупныя цэны на сельгаспрадукцыю, зьмяншае падаткі для калгасаў і дзяржзамову па расьлінагадоўлі. Можна казаць пра лібэралізацыю ў сельскай гаспадарцы.

12 сакавіка на пасяджэньні саюзнага ўраду ўзьнікае канфлікт наконт спагнаньня ўскосных падаткаў. Дакумэнты застаюцца непадпісаныя. Праз месяц падчас чарговага візыту ў Маскву ўрад Беларусі патрабуе ад Расеі штогод кампэнсаваць страты беларускага бюджэту ў памеры 180 млн. даляраў. Новы ўрад ніяк ня можа пасябраваць з Масквой.

### Ультыматум

23 красавіка ў пасланьні парлямэнту прэзыдэнт дакарае Навіцкага за спакойнае чаканьне і бязьдзейнасьць. Праз тыдзень на нарадзе Лукашэнка выстаўляе ўльтыматум: калі да канца кварталу (праз 2 месяцы) эканамічнае становішча рашуча ня зьменіцца, урад пойдзе ў адстаўку. Прэзыдэнт прапануе новы рэцэпт эканамічнага посьпеху — практычную нацыяналізацыю маёмасьці камэрцыйных структураў, што хаваюць сапраўдныя заробкі сваіх супрацоўнікаў, а таксама фірмаў, дзе працуюць звольненыя чыноўнікі. У адстаўку адпраўленыя міністар аховы здароўя і кіраўнікі чатырох канцэрнаў, якія ня выканалі прагнозных паказьнікаў. Строгая вымова абвешчаная Навіцкаму, строгае папярэджаньне атрымліваюць амаль усе міністры.

### Кілбаса больш ня значны прадукт

На пачатку чэрвеня кабінэт міністраў выкрасьліў мяса і мясапрадукты са сьпісу "сацыяльна значных" тавараў. Цэны на іх дзяржава рэгулявала цягам апошніх 10 гадоў. Словам, "за кілбасу" больш галасаваць ня будуць.

30 ліпеня пад пагрозай адстаўкі ўрад робіць справаздачу. Усё абыходзіцца мірна. Выкананыя 9 з 16 прагнозных паказьнікаў сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця. У першым паўгодзьдзі рост валавога прадукту склаў 104,7% пры прагнозным паказьніку 104—105%.

Аднак, калі зірнуць на справу комплексна, карысьць ад выкананьня парамэтраў сумнеўная. Так, адзначана павелічэньне рэальных грашовых даходаў насельніцтва на 18%. Для трывалага функцыянаваньня трэба адначасова забясьпечыць адпаведны прырост вытворчасьці, перадусім спажывецкіх тавараў. Гэта дапамагло б захаваць курс беларускага рубля: людзкія грошы знайшлі б сабе прымяненьне. Але прагрэс — рост вытворчасьці на 4,3% — назіраецца толькі ў сельскай гаспадарцы. У прамысловасьці тэмпы вытворчасьці ў чатыры разы адстаюць ад тэмпаў росту грашовых даходаў, у сфэры паслугаў — у тры разы. Адпаведна людзі вымушаныя ўкладаць свае грошы ў валюту.

Праблемы і з замежным гандлем. Павялічваецца імпарт. На 39,6% вырас увоз мясапрадуктаў, на 26,7% — абутку й шапак. Расьце імпарт тавараў, якімі была вядомая Беларусь, — тэлеапаратуры, лядоўняў, тэкстылю. Урад схільны абараніцца нетарыфнымі мерамі. Беларускі экспарт у Расею зьнізіўся на 6,7%, а ва Ўкраіну — ажно на 60,2%. Праўда, дзякуючы павелічэньню экспарту паслугаў краіна дамаглася станоўчага сальда замежнага гандлю — 61,7 млн. даляраў. Чарговы боль — інвэстыцыі. За паўгоду Беларусь атрымала толькі 129 млн. даляраў замежных капіталаўкладаньняў, тады як гадавы плян складае 400 млн.

На пачатку жніўня прымаецца новы рэглямэнт працы ўраду, згодна зь якім цяпер у пасяджэньнях Саўміну могуць браць удзел парлямэнтары.

### "Белтрансгаз"

Прэм'ер пазьбягае камэнтаваць праблемы беларуска-расейскіх стасункаў, урад паслухмяна маўчыць і выконвае загады. Пры канцы жніўня кабінэт ухваляе праект дэкрэту прэзыдэнта, што дае дазвол на прыватызацыю ўсяе сыстэмы прадпрыемстваў дзяржаўнай кампаніі "Белтрансгаз". Гэта важны крок у выкананьні дамоўленасьцяў Лукашэнкі і Пуціна, паводле якіх "Белтрансгаз" павінен быць прыватызаваны да 1 ліпеня 2003 г. Прычым да гэтага працэсу павінен быць допушчаны "Газпрам". Гэта — умова ўвядзеньня для Беларусі ўнутрырасейскіх тарыфаў на газ і спроба паменшыць напружаньне паміж Масквой і Менскам. Няпэўнасьць гэтых узаемінаў працягваецца надалей, і 17 верасьня Навіцкі і Касьянаў вырашаюць пачакаць і прымаюць "рашэньне аб пераносе рашэньня". Асноўнае пытаньне — аб увядзеньні адзінай валюты — засталося нявырашаным мінімум да сьнежня. Вось так сама няпэўна мінуў год і для Генадзя Навіцкага.

**Сяргей Радштэйн**

апытаньне "НН": які прэм'ер быў найлепшы?

# І ўсё-такі Кебіч!

**З усіх беларускіх прэм'ераў людзям найбольш запомніўся Вячаслаў Кебіч — бо быў асобай №1 у дзяржаве. Таму і ўлятала "Францавічу" ў народных гутарках нашмат болей, чым прэм'ерам сёньняшнім, — найперш за спробы інтэграцыі з Расеяй, якія тады былі ў навіну. Затое цяпер — памятаюць. Потым ільвіную долю любові і нелюбові адцягнуў на сябе Лукашэнка, на прэм'ераў зьвярталі меней увагі. Але цалкам не забыліся. Чыгіра ў часы прэм'ерства не любілі за тое, што маўчыць, калі прэзыдэнт крычыць на яго, Лінга — за тое, што стараваты і камуняка, Ярмошына — за Нямігу і расейскасьць, Навіцкага, як і ўсіх агулам, — за несамастойнасьць і невыразнасьць. Сёньня апытаньне "НН" мае адваротную мэту: вызначыць, за што каго з нашых прэм'ераў любілі.**

**Станіслаў Шушкевіч, экс-старшыня Вярхоўнага Савету:** Кебіч рабіў разумныя захады. І знаходзіўся на тым узроўні, якога патрабавала пасада. Я паважліва ставіўся і да Ярмошына. У складаных умовах ён здолеў зрабіць шмат карыснага. Самы безаблічны прэм'ер — Лінг. Ён не зрабіў нічога. Абсалютна. А ў чалавечым пляне, між іншым, быў даволі прыемнай асобай.

**Аляксандар Ярашук, палітык-адзіночка:** Усё ж такі Кебіч. Хоць бы таму, што быў першым. Тым, хто ішоў за ім, было ўжо лягчэй. Пры Кебічу ж фарміраваліся ўсе дзяржаўныя інстытуты. Ён спраўляўся. Школа жыцьцёвая ў яго была моцная. Кадравую палітыку разумную праводзіў. Галоўнымі крытэрамі пры адборы кадраў для яго былі не зямляцтва ці асабістая адданасьць. Але ўсё, што зь ім здарылася далей, — адпаведна з заслугамі. Аднымі ружовымі колерамі Кебіча ніяк не намалюеш.

**Сьвятлана Калінкіна, галоўная рэдактарка *"Белорусской деловой газеты"*:** Найбольш кампэтэнтным быў Ярмошын. Чалавек знаходзіўся на сваім месцы. Дасягненьні яго можна пералічваць доўга. Галоўнае, што яму ўдалося абмежаваць паўнамоцтвы Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Ні да яго, ні пасьля яго ніхто ня змог зрабіць нічога падобнага.

**Аляксей Марачкін, мастак:** Найлепшага не было. Яго пакуль можна толькі чакаць. Асабіста я з павагай магу ставіцца толькі да аднаго зь іх. Да таго, хто пры гэтым рэжыме здолеў зрабіць сапраўдны ўчынак — сысьці, ляснуўшы дзьвярыма. Гэта Міхаіл Чыгір. У астатніх сьмеласьці не хапіла і на гэта. Баяцца слова супраць сказаць. Бо бачылі, што з Чыгіром стала: і сам за кратамі пабываў, і сын там знаходзіцца.

**Уладзімер Роўда, палітоляг:** Усе кепскія. Хіба толькі Кебіч, які праводзіў самастойную палітыку. Усе астатнія гэтага рабіць не маглі. Працавалі пад уціскам Лукашэнкі. Згадваецца яшчэ Чыгір. Ён імкнуўся прасоўваць наперад разумныя эканамічныя ідэі. Але яго палітыка, як прэм'ер-міністра, не была эфэктыўнай. Усё натыкалася на супраціў Лукашэнкі. Усе астатнія прэм'ер-міністры нічога добрага для нашай краіны не зрабілі. Прадстаўнікі расейскай палітычнай эліты любяць узгадваць Ярмошына. Яго нават разглядаюць як магчымую альтэрнатыву Лукашэнкі. Але ён праводзіў выключна прарасейскую палітыку. Да Беларусі і яе інтарэсаў яму не было ніякай справы. І цяпер няма.

**Аляксандар Дабравольскі, намесьнік старшыні АГП:** Вельмі добрым прэм'ерам можна лічыць Міхаіла Чыгіра: ён быў сапраўдным прафэсіяналам. У часы яго прэм'ерства павялічыўся заробак, спыніўся рост інфляцыі. Што тычыцца іншых прэм'ераў, дык Кебіч быў ня вельмі добрым, а ўсе астатнія — проста ніякія.

**Анатоль Лябедзька, старшыня АГП:** Магу сказаць, хто быў прафэсіяналам. Чыгір і Ярмошын. Зь іх лепшым мне здаецца Чыгір. Мужны і рашучы. Меў пасаду, і вельмі высокую. Ня кожны б сам сышоў у адстаўку. А кінуць працу ў офісе самага высокага ўзроўню і вярнуцца ў Беларусь!.. Акрамя Чыгіра сярод беларускіх палітыкаў на такое здольныя адзінкі. А мо і зусім ніхто.

**Уладзімер Колас, дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэю:** Некалі ў Сталіна папыталі, які ўхіл горшы — правы ці левы. Той адказаў: "Оба хуже". Так і тут. Цяперашні, Навіцкі, даволі імпазантным выглядае. Дый Ярмошын, калі ў Менгарвыканкаме працаваў, талковым мужыком здаваўся. Але як можна згадзіцца на пасаду прэм'ер-міністра ў краіне, дзе эканоміка падпарадкаваная ідэалёгіі, не разумею.

**Валянціна Палевікова, Аб'яднаная сацыял-дэмакратыя:** Чыгір: ён рэальна займаўся эканомікай. А не імкнуўся яе ідэалягізаваць, як гэта рабіў Лінг. Пры Чыгіру было адчуваньне, што і ў эканоміцы, і ў банкаўскай справе робіцца правільныя крокі. Гэта быў час надзей. Час, які цяпер згадваецца як дастаткова дэмакратычны пэрыяд нашага жыцьця. Калі я працавала ў ФПБ, часта сустракалася з Чыгіром на розных пленумах і зьездах. Нам заўсёды ўдавалася наладжваць нармальныя партнэрскія адносіны. Ён вельмі кампрамісны чалавек. І самы чалавечны й надзейны з усіх, хто зваўся ў свой час прэм'ерміністрам Беларусі. А назірала я за ўсімі.

**Зьміцер Бародка, рух "Зубр":** Яны ўсе адзін аднога вартыя. Пра цяперашняга прэм'ера Навіцкага наагул нічога не магу сказаць. Можа, яго зусім няма?


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Надзея Нянашава, гаспадыня кавярні "Валерыя":** Добра ведаў сваю справу Ярмошын. Гаспадарнік моцны. Толькі яго прэм'ерства і запомнілася. А Навіцкі недаспадобы. Бо ён з Магілёва. Гэта ўжо шмат пра што кажа.

**Сяргей Мальчык, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі БНФ:** Запомніўся Кебіч. Быў фотагенічны. Газэты любілі яго здымак зьмяшчаць. Бо меў ён вельмі імпазантны выраз твару. Яшчэ пачаў праводзіць палітыку аб'яднаньня з Расеяй. Па рубель адзіны марыў. Яго першым з усіх палітыкаў-далучэнцаў Расея і пракінула.

**Рыгор Барадулін, пісьменьнік:** Усе прэм'еры ў нас былі толькі намінальнымі. Нерэальныя і неўплывовыя фігуры. Стаўленікі. Хто камуністычнай, хто посткамуністычнай сыстэмы, а хто і цяперашняй, калгасна-сацыялістычнай. Беларусі ніхто зь іх не спрыяў. Хто лепшы? Анэкдот стары ўзгадваю на гэту тэму. Зьезьдзіў яўрэй за мяжу. Вярнуўся. Потым яшчэ раз паехаў. А потым яшчэ прасіцца. Яго пускаюць, але кажуць, што апошні раз. Дый тое пры ўмове, што скажа, дзе лепш. Той і адказвае: "Ай, і там, і там гаўно. А перасадка ў Парыжы". Так і з прэм'ерамі нашымі.

**Станіслаў Багданкевіч, экс-старшыня Нацыянальнага банку:** Міхаіл Чыгір і Ўладзімер Ярмошын. Першы імкнуўся правесьці рэформы. Каб яму ўдалося, жылі б мы цяпер, як Літва ды Польшча. А Ярмошын быў таленавітым кіраўніком. Наконт будаўніцтва мэтро мы зь ім часта сустракаліся. Сапраўдны гаспадарнік — а палітык ніякі. З Чыгіром нармальныя дзелавыя стасункі не замінаці сварыцца. Чыгір дагэтуль згадвае, які я ўпарты. Але і ён не адставаў. Мы адзін аднаму то "ты", то "вы" казалі. У залежнасьці ад сытуацыі. Калі сварыліся, адразу "выкаць" пачыналі.

**Леанід Малахаў, бізнэсовец, сустаршыня грамадзкага аб'яднаньня "Прыватная маёмасьць", АГП:** Найлепшым быў Кебіч. Бо фактычна меў прэзыдэнцкія паўнамоцтвы і мог рэальна ўплываць на сытуацыю ў краіне. Пры ім не зьнікалі апазыцыйныя палітыкі і журналісты, а за выступы на мітынгах не саджалі на суткі. Яго прэм'ерства было найлепшымі часамі для беларускіх прадпрымальнікаў.

**Апытвала Вольга Анцыповіч**

# Славаччына галасуе за Саюз

**Выбары ў Славаччыне скончыліся перамогай правацэнтрысцкае кааліцыі. Яе склад зьмяніўся, але на чале новага ўраду зноў устане Мікулаш Дзурында. Стратэгічны курс Славаччыны на ўваходжаньне ў *NATO* і Эўразьвяз застаецца нязьменны.**

Уладзімер Мэчыяр — з-за якога Славакія ня трапіла ў *NATO* разам з Польшчай, Чэхіяй і Вугоршчынай тры гады таму — ужо чацьверты раз запар здабыў найбольшую колькасьць галасоў, але гэта была пустая перамога. Разам з папулісцкім "Шляхам" Робэрта Фіца і цьвердалобымі камуністамі Мэчыяраў рух праўдзе найбліжэйшы час на лаве апазыцыі. Групоўка колішняга прэм'ера, які пераважыў тры ўрады, у параўнаньні з папярэднімі выбарамі страціла больш за 7% галасоў.

Новы ўрад, хутчэй за ўсё, будзе ўтвораны кааліцыяй чатырох партый на чале з кансэрватыўнай СХДП, якой кіруе прэм'ер Мікулаш Дзурында. Яна заняла другое месца на выбарах, здабыўшы каля 16% галасоў. Разам з хадэкамі і вугорскай меншасьцю, зь якімі СХДП ужо кааперавалася цягам апошніх чатырох гадоў, кансэрватары будуць мець у Нацыянальнай Радзе 63 мандаты з 150. Супрацоўніцтва з новапаўсталай лібэральнай групоўкай Паўла Рускі (здабыла 15 мандатаў), стваральнікам папулярнага тэлеканалу "Маркіза", забясьпечыць ім перавагу ў шосьць галасоў.

— Я прыемна ўражаны. Гэта найлепшыя вынікі выбараў у Славакіі, пачынаючы з 1990 г., — кажа Марцін М.Шымачка, галоўны рэдактар газэты "*Sme*".

— Найбольшую паразу пацярпела сацыял-дэмакратычнае крыло, якое ня трапіла ў парлямэнт, — кажа Соня Шамаляны, дырэктарка катэдры паліталёгіі Ўнівэрсытэту Каменскага ў Братыславе.

Прайграў і Робэрт Фіц, кіраўнік папулісцкага "Шляху". Яшчэ нядаўна ён быў пэўным кандыдатам на пасаду прэм'ер-міністра, а апытаньні давалі ягонай партыі шанцы нават на перамогу ў выбарах. Выявілася, што адной раскруткі недастаткова, трэба яшчэ мець нейкую праграму.

Затое цешацца палітыкі вугорскай меншасьці. У калідоры іхнай сядзібы ў ноч пасьля выбараў сьпявала цыганская капэла. Кіраўнік мадзярскае кааліцыі Бэла Бугар не хаваў задавальненьня:

— Гэта наша самае лепшае дасягненьне. Найважней для мяне тое, што за нас галасавалі і славакі, галоўным чынам інтэлігенцыя з Братыславы і Кошыцэ.

"Сяброўства Славаччыны ў *NATO* і ЭЗ зьяўляецца толькі пытаньнем часу, — заявіў міністар замежных спраў краіны й Дзурындаў намесьнік у СХДП Эдуард Кукан. — Да нас не было прэтэнзіяў, што мы не адпавядаем, напрыклад, тэхнічным ці фінансавым крытэрам.




Лідэр СХДП Мікулаш Дзурында будзе фармiраваць новы ўрад

Працяглы час, аднак, была занепакоенасьць тым, што адбудзецца, калі прыйдзе новы ўрад. Сёньня ўжо нічога не перашкаджае таму, каб мы атрымалі запрашэньне да сяброўства ў *NATO* падчас лістападаўскага саміту ў Празе. Партнэры на Захадзе часам сумняюцца ў нас. Нашы грамадзяне далі сыгнал — і ўжо ня першы раз, — што зацікаўленыя ва ўрадзе, які вядзе іх краіну ў ЭЗ і *NATO*. Мне вельмі хацелася б, каб нашы заходнія калегі пазбыліся страху наконт Славаччыны і больш нас не апрабоўвалі. Ужо шмат разоў мы даводзілі, што зьяўляемся сталай эўрапейскай краінай".

Камуністычная партыя Славакіі (КПС) упершыню пасьля дэмакратычных зьменаў 1990 г. правяла сваіх вылучэнцаў у Нацыянальную Раду. За іх прагаласавалі больш як 180 тыс. славакаў, што дало ім 11 месцаў у парлямэнце.

У камуністычныя часы (1948—89) КПС уяўляла сабой славацкую сэкцыю Камуністычнай партыі Чэхаславаччыны. Зь яе шэрагаў выйшлі такія дзеячы, як чэх Аляксандар Дубчак, завадатар "Праскай вясны" 1968 г., што спрабаваў пабудаваць у Празе і Братыславе "сацыялізм з чалавечым тварам", або ягоны наступнік славак Густаў Гусак, на якім ляжыць адказнасьць за ліквідацыю тых рэформаў.

Калі ў 1990 г. уладу ў краіне атрымала дэмакратычная апазыцыя, большасьць партыйцаў з сацыял-дэмакратычным ладам мысьленьня згуртаваліся ў Партыю сацыял-дэмакратычнага крыла (зараз яна ня будзе прадстаўлена ў парлямэнце, хоць на выбарах чатырохгадовай даўніны яна атрымала трацiну месцаў і права ўдзелу ў фармаваньні цяперашняга ўраду Мікулаша Дзурынды). Праціўнікі гэтай трансфармацыі засталіся ў КПС. На чале партыі стаіць 54-гадовы Ёзаф Шэўц, зяць Васіля Біляка — аднаго з аўтараў ліста да Леаніда Брэжнева з просьбай дапамагчы "ў барацьбе з контррэвалюцыяй" 1968 г. Славацкія камуністы, як і іх чэскія калегі, настроеныя супраць сяброўства Славаччыны ў *NATO*. Уступленьне ў Эўразьвяз яны тэарэтычна дапускаюць, але пры ўмове, што ў ім адбудуцца істотныя рэформы. У выбарчай праграме КПС можна прачытаць, што краіна ад 1989 г. знаходзіцца ў крызысе і пераживае "поўнае спусташэньне". Ёсьць там і характарыстыка КПС як "адзінай сапраўды левай партыі" ў краіне.

Вельмі падобна на тое, што Славаччына станецца адзінай дзяржавай Сярэдняй Эўропы, дзе будуць кіраваць правыя. Правацэнтрысцкія партыі пачалі свае перамовы аб кааліцыі ўжо ў ноч зь нядзелі на панядзелак. Абмяркоўваюцца супольная праграма і сьпіс міністраў. Спачатку лідэрам сямі партыяў прыме па чарзе прэзыдэнт Рудольф Шустэр, зацікаўлены ў як мага хутчэйшым фармаваньні новага ўраду. Гэта сталася б для Захаду знакам, што праблемы з Славаччынай адышлі ў мінулае.

**Мікола Бугай**

**Партыі будучае правацэнтрысцкае кааліцыі:**

| | |
|---|---|
| Хрысьціянска-дэмакратычная партыя (СХДП) цяперашняга прэм'ера Мікулаша Дзурынды | — 15,9%, 28 месцаў |
| Вугорская кааліцыя | — 11,2%, 20 месцаў |
| Хрысьціянска-дэмакратычны рух (уваходзіў у папярэднюю ўрадавую кааліцыю з СХДП) | — 8,2%, 15 месцаў |
| Лібэралы (*Ano*) на чале з уладальнікам прыватнага тэлеканалу "Маркіза" Паўлам Рускам | — 8%, 15 месцаў |

**Партыі будучае апазыцыі:**

| | |
|---|---|
| Рух за дэмакратычную Славаччыну (РЗДС), прарасейская папулісцкая партыя экс-прэм'ера Мэчыяра | — 19,5% галасоў, 36 месцаў |
| "Шлях" (*Smer*), рух на чале з папулістам-нацыяналістам Робэртам Фіца | — 13,5%, 25 месцаў |
| Камуністы | — 6,3%, 11 месцаў |




# Музэй генацыду

**У гэты музэй мы трапілі выпадкова, шпацыруючы па Вільні ў кампаніі з маім расейскім сябрам. Капіталістычна-нацыяналістычная Вільня ўзьдзейнічае на менчука, як наркотык. Пачуцьцё эўфарыі ахоплівае адразу пасьля перасячэньня мяжы. Пачуцьцё, якое можна параўнаць з адчуваньнямі вязьня, якога нечакана выпусьцілі на волю. Бо няма вакол строгасьці сталінскіх праспэктаў, недзе далёка засталіся "славянскія саюзы", а ў кожнай кавярні чакаюць менавіта цябе. Але найбольш майго сябрука цешыць тое, што "яны так ня любяць расейцаў".**

Гэта на самай справе ўбогі савецкі стэрэатып, які ў Менску я чуў столькі разоў, ледзьве гаворка заходзіла пра Вільню. Сябар спыняе таксоўку. "Вось бачыш, — кажа, — для літоўца дык спыніцца б бліжэй на пару мэтраў. Ня любяць яны расейцаў". Кавярня, файнае піва, вялізны стэйк на талерцы. А той не сунімаецца. "Нам недаклалі мяса. Ня любяць расейцаў, праклятыя фашысты". Прыгожая афіцыянтка хутка мяняе стравы й усьміхаецца. "А лабусам хутчэй падносіць!" — абураецца сябра, аплятаючы стэйк. Фальклёрнае трыё зайграла нейкую тужлівую літоўскую песьню. "Зараз я перакладу яе сынхронна", — кажа сябрук і пачынае, старанна падрабляючы літоўскі акцэнт: "Йа ўчо-ора пайшоў у лес і злавіў там маскаля. Йа яго забіў, павэсіў на дрэ-эва, і ўся віо-оска радавалася. Зрабі тое са-амае, і можаш сьпяваць разам з на-амі".

За жартамі мы не заўважылі, як апынуліся перад цяжкімі дзьвярыма агромністага змрочнага палацу з шыльдаю "*Genocido auku muziejus*". Ня трэба быць паліглётам, каб зразумець сэнс надпісу. Але я выступіў гідам, патлумачыўшы, што гэта колішні царскі Палац юстыцыі, колішняя Дэфэнзыва, колішняе Гестапа й колішняе КГБ. За дзьвярыма сядзелі дзьве бабулькі, што ласкава паказалі нам лесьвіцу ў сутарэньні. Дзе ад нашага жартоўнага настрою не засталося й знаку.

Уявіце сабе доўгія турэмныя калідоры, зь яркімі лямпачкамі пад высачэзнай стольлю. У першым пакоі — стол, тэлефоны, афіцэрскія шынялі й кашкеты на вешаку. Далей — шэраг расчыненых дзьвярэй у камэры. Зь першых крокаў па калідоры мяне ахапіла адчуваньне, быццам і вязьні, і каты пакінулі турму зусім нядаўна. Бо ня выветрыўся за гады літоўскай свабоды асаблівы турэмны дух гэтых падвалаў.

Мы былі адзінымі наведнікамі страшнага музэю. Падарожнікамі па колішніх камэрах. Мы сядзелі на жорсткіх драўляных ложках. Зазіралі ў халодныя карцэры. Заходзілі ў душавыя. Мацалі мяккія гуканепранікальныя маты ў катавальні, дзе на вешаку цяпер расьпятая чорная ўціхамірвальная кашуля. Асабліва пранялі вадзяныя катавальні. Пакой маленькай камэры напаўняўся ледзяною вадой. А пасярэдзіне заставалася невялічкая жалезная выспачка, каб толькі стаць нагамі. І ня трэба чалавеку ламаць косткі й выдзіраць пазногці. Дастаткова зачыніць за ім дзьверы й чакаць. Альбо дасьць пакаzаньні, альбо звар'яцець, зьнясілены, у ваду. Сканчаўся калідор закрытымі цяжкімі дзьвярыма, перанесенымі з турмы на Лукішках.

Дзіўна было ўсьведамляць, што турма яшчэ зусім нядаўна, на нашым веку, працавала на ўсю моц. Жыла, дыхала, стагнала й лаялася. І разам са страхам спараджала й культывавала ў сваіх вязьняў ды ў тых, хто праходзіў побач, нянавісьць да чужынцаў. Зусім нядаўна. У 1987-м тут яшчэ сядзелі "палітычныя".

Скончылася музэйная экспазыцыя новымі сутарэньнямі, у якія вяла лесьвіца са шклянымі прыступкамі. Мы спусьціліся цесным калідорам у скляпеністую змрочную камору. Падлога ў памяшканьні шкляная. Пад асьветленым шклом ляжаць рэчы — чаравікі, аўтаручкі, акуляры. Стоячы пад нізкай стольлю й агледаючы надпісы па-ангельску й

# Мастацтва немагчымага

**Калі не лічыць Украіны, няма ў Эўропе краіны, больш падобнай да Беларусі па вопыце будаўніцтва дзяржаўнасьці, чым Славаччына. Краіна над Дунаем удвая меншая за Беларусь, але мае эканоміку, супастаўную па маштабах зь беларускай. Ня маючы ні выхаду да мора, ні значных прыродных рэсурсаў, Славаччына, як і Беларусь, не разглядаецца Захадам як геапалітычны прыярытэт. Нарэшце, славакі, як і беларусы, — запозьненая ў сваім разьвіцьці нацыя. Акрамя кароткага пэрыяду пад нацысцкім пратэктаратам у 1939—45 г., Славакія ня мела дзяржаватворчага досьведу. Чаму ж у часе посткамуністычнага крызысу 90-х Славаччына, у адрозьненьне ад Беларусі, не павярнулася “дупаю да будучыні”?**

“Kwestia słowacka w XX wieku”. Зборнік. Уклад. Рудольф Чмель. — Глівіцэ: Выд-вы Kalligram, GREG, Gazeta Wyborcza, 2002.


Уладзімер Мэчыяр

Расея бачыла асаблівы інтарэс у Славаччыне: там ёсьць буйны нафтаперапрацоўчы завод і газаправоды, што вядуць у Чэхію і Вугоршчыну. Нездарма першы пасол Расеі ў Братыславе Сяргей Ястржэмбскі зрабіў зорную кар’еру пасьля таго, як у 1994 г. яму ўдалося дапамагчы ўзысьці на вяршыню ўлады славацкаму Лукашэнку — Уладзімеру Мэчыяру.

Славаччыну часта блытаюць з Славеніяй. Такую памылку зрабіў нават Джордж Буш. Гэтым ён нагадвае тых заходнеэўрапейцаў, якія дагэтуль лічаць, што Беларусь называецца так таму, што населеная белагвардзейцамі.

Славацкую мову ў Беларусі ведаюць адзінкі (хоць яе і выкладаюць на філфаку БДУ). “Гэта нешта сярэдняе між польскай, чэскай і ўкраінскай”, — так часта кажуць. “Пісадла, лятадла” — сьмешныя для беларускага вуха словы! Таму і беларуска-славацкія кантакты найбольш адбываюцца праз пасярэднікаў. Вось і пра выхад на даступнай усім нам польскай мове зборніка матэрыялаў пра гісторыю Славаччыны “Славацкае пытаньне ў ХХ ст.” я даведаўся дзякуючы *“Gazecie Wyborczej”*.

Усё славацкае здаўна ў масавай сьвядомасьці трактуецца як другі (вельмі падобны) гатунак чэскага. Прычыны — дамінаваньне чэхаў у іерархіі культур (і ў хакеі таксама). Ірацыянальную нелюбоў да славакаў у вачах заходніх элітаў будзілі розныя факты. Нават тое, што пастаўлены Масквой кіраўнік Чэхаславаччыны Густаў Гусак быў славакам, тады як лідэр “Праскае вясны” Дубчак, месца якога і заняў Гусак, — чэхам. А найбольш раздражняла сялянскасьць славацкае нацыі (на Захадзе эліты ня любяць, не разумеюць даўно забытага ў сябе “сялянскага пытаньня”, “сялянскае эстэтыкі” і г.д.). Яшчэ — роля Славаччыны ў другой сусьветнай вайне. Стварэньне самастойнае дзяржавы па волі Гітлера на чале з ксяндзом Тыса.

Дарэчы, сытуацыя Славаччыны ў 1939—45 г. — тэма асобнага дасьледаваньня ў кнізе. “Славацкае нацыянальнае паўстаньне” было перадусім праявай непрыманьня масамі Славацкае дзяржавы і жаданьня аднавіць супольную дзяржаву чэхаў і славакаў. Тое паўстаньне было скіраванае перадусім супраць Славацкае нацыянальнае дзяржавы і толькі пасьля — супраць нямецкіх нацыстаў, піша ў “Славацкім пытаньні ў ХХ ст.” братыслаўскі гісторык Мірaслаў Кусы. “Бо, з вайсковага пункту гледжаньня, паўстаньне выбухнула ў “неакупаванай краіне”. На тэрыторыі Славаччыны не было нямецкіх войскаў зусім, яны зьявіліся там, каб падавіць паўстаньне, навесьці парадак у сябе ў тыле. Паўстаньне было прыдушанае дастаткова хутка (калі параўноўваць з варшаўскім ці югаслаўскім), і толькі нязначныя баі працягваліся ў горных раёнах краіны”.

Выступленьне справакавалі кіраваньня з Масквы камуністы, і яно ў будучыні дазволіла без праблемаў далучыць краіну да “маскоўскага лягеру”. Паколькі ўрад Чэхаславаччыны саюзьнікі прызналі яшчэ да выбуху паўстаньня, гэта давала магчымасьць вельмі зручнага для Масквы дыпламатычнага вырашэньня. Славаччына, хоць і была абвесьціла вайну ўсім праціўнікам Нямеччыны і фармальна так і ня выйшла з гэтага стану, пасьля вайны не разглядалася як пераможаная краіна з усімі наступствамі гэтага. Наадварот, як частка Чэхаславаччыны яна апынулася ў стане пераможцаў, нягледзячы на дэпартацыю славацкіх жыдоў у канцлягеры, тэрор гвардзейцаў Глінкі пасьля паўстаньня і ўдзел славакаў у вайсковых дзеяньнях на баку нацыстаў.

Гісторыя Славаччыны ў ХХ ст. надзвычай павучальная для Беларусі. Гэтая думка пранізвае, калі чытаеш зборнік. Часам здаецца, што “гэтая невялічкая краіна іграла ў покер зь лепшымі за сябе гульцамі, але часам бывала, што славакі не саромеліся для сваіх патрэбаў ужываць краплёныя карты ці прыхоўваць тузы ў рукаве”, — піша *“Gazeta Wyborcza”*.

Так было ў 1918 г., калі Славаччына пазбылася векавой залежнасьці ад Вугоршчыны. Але далучэньне да дзяржавы чэхаў, безь якога нясьпелая славацкая нацыя на той час яшчэ не магла абысьціся, адбылося толькі пасьля таго, як прадстаўнікі славацкай эміграцыі хітрыкамі дабіліся ад чэхаў і Масарыка Пітсбурскай умовы, што прадугледжвала аўтаномію Славаччыны, гарантаваную асобным парлямэнтам. Пасьля чэхі гэтую ўгоду праігнаравалі, робячы стаўку на зьліцьцё чэхаў і славакаў у адну нацыю. Але было позна: норма аўтаноміі ўжо была зафіксаваная чорным па белым. Нешта падобнае, як з Расеяй і БССР.

У выніку Мюнхенскае змовы славакі атрымалі нацыянальную самастойнасьць ад... Гітлера і... не адмовіліся. Гэтае згодніцтва дазволіла краіне з параўнальна невялікімі стратамі для сябе перетрываць другую сусьветную. Каб пад канец яе, як ужо згадвалася, зноў выступіць супраць сваёй дзяржавы і ў вострай міжнароднай сытуацыі зноў далучыцца да Чэхіі.

Масавы нацыяналістычны рух у Славаччыне разгарнуўся ў 60-я, і яго спрытна выкарысталі ў сваіх інтарэсах Саветы. Але і нацыянальны рух выйшаў з “Праскай вясны” са здабыткамі: дзяржаўны лад Чэхаславаччыны быў зьменены на фэдэратыўны, а г.зв. “стабілізацыя” пасьля 1968 г. у Славаччыне не была такой жорсткай, як у Чэхіі. Да таго ж, каб пакараць Чэхію за “Праскую вясну”, ЧССР зрабіла стаўку на эканамічнае разьвіцьцё Славаччыны. У выніку славакі заставаліся досыць абыякавымі да “Хартыі’77” і чэскага праваабарончага руху. Гэта была свайго роду ўдзячнасьць за адносна высокі ўзровень жыцьця. Сьляды альтэрнатыўнае культуры зьяўляліся толькі ў адказ на ўціск каталіцкага касьцёлу (Славаччына — пераважна каталіцкая краіна).

Ці ня тое самае адбывалася зь беларусамі, удзячнымі за савецкую мадэрнізацыю, якія таксама раўнадушна прапусьцілі дысыдэнцкі рух?

Аднак гэтая зьмена эканамічных умоваў — як у Славаччыне, так і ў Беларусі, — нягледзячы на застой канаючай сацыялістычнай гаспадаркі, выклікала ў псыхалягічнай сфэры далекасяжныя наступствы. Славакі й беларусы перасталі адчуваць сябе людзьмі другой катэгорыі, толькі ў выніку сваіх эканамічных дасягненьняў яны сталі “людзьмі звацца”, што і стварыла грунт для ўсплёску стваральнага нацыяналізму 80-х і фэнамэнальнага нацыянальнага будаўніцтва 90-х.

Развал камуністычнае сыстэмы быў момантам, калі славакі зразумелі: *hic Rodos, hic salta*. І 1 студзеня 1993 г. паўстала незалежная Славаччына, будучы сябар ААН.

Зь іншага боку, параўнальны дабрабыт камуністычнае пары, стварыўшы псыхалягічныя ўмовы для росквіту нацыяналізму, абумовіў будучую посткамуністычную фрустрацыю — лукашызм і мэчыярызм. Славакі выблыталіся, у беларусаў адбываецца больш складаны і менш адназначны працэс перараджэньня самога рэжыму. “Беларускае пытаньне” да канца яшчэ ня вырашылася. Яно — у нашых руках.

Кніга разглядае ў якасьці канчатковага вырашэньня “славацкага пытаньня” стварэньне сувэрэннае Славацкае Рэспублікі 1 студзеня 1993 г. На маю думку, тутака патрэбнае ўдакладненьне ў часе. Палітычны лёс Славаччыны па-сапраўднаму вырашыўся пазьней, пасьля таго як у 1994 г. (якое супадзеньне!) усплыў Мэчыяр і калі на пераломе тысячагодзьдзяў палітычная эліта Славаччыны здолела замацаваць эўрапейскую і эўраатлянтычную арыентацыю краіны. Вядома, гэтая арыентацыя можа зноў устаць пад пытаньне, калі ЗША і Заходняя Эўропа спыняць “падпітваньне” ўсходнеэўрапейскіх эканомік, якое ішло гэтыя гады. Ёсьць сыгналы, што такое можа адбыцца ўжо неўзабаве. Тыя самыя праблемы тады напаткаюць ня толькі Славаччыну, а і няпэўную ў сваім цывілізацыйным выбары Баўгарыю, акупаваную расейскім капіталам Латвію ці абцяжараную вялізным замежным доўгам Літву. Ды гэта будзе ўжо новы этап гісторыі. Важна, што Славаччына пасьпела прычапіцца да цягніка, які называецца “Эўразьвяз і *NATO*”. Чаго ніхто не забараняе зрабіць і Менску.

Павучальна, як славацкія палітычныя лідэры ў ХХ ст. умелі манэўраваць, здабываючы выгады для сваёй краіны там, дзе гэта, здавалася, было немагчыма. Аднак самае павучальнае для нас у славацкім досьведзе — гэта пасьпяховае, як засьведчылі апошнія выбары, вырашэньне славацкага пытаньня пры канцы ХХ ст. Перадумовамі гэтага вырашэньня былі некаторыя гістарычныя плюсы: рэлігійнае адзінства славакаў (усе каталікі), традыцыя славацкае мовы, спадчына дэмакратычнае Аўстра-Вугорскае імпэрыі, веліч геаграфічных аб’ектаў, што яднаюць нацыю, — Дунаю і Татраў. Але былі і мінусы, аналягічныя беларускім: невялікая зацікаўленасьць Захаду ў Славаччыне, вялікая зацікаўленасьць Расеі, эканамічны спад у выніку краху сацыялізму, адсутнасьць нацыянальнай сыстэмы СМІ, саветызаванасьць насельніцтва, ксэнафобія.

На маю думку, галоўная прычына славацкага посьпеху — а пад посьпехам я маю на ўвазе тое, шо краіна ўрэшце не павярнулася “дупаю да будучыні”, як Беларусь, не адраклася дэмакратыі і пабудавала сваю інфармацыйную прастору, — у розуме славацкіх палітычных лідэраў. Сілы з рознымі ідэалягічнымі і нацыянальнымі поглядамі — хадэкі, кансэрватары, сацыялісты, інтэлігенты, нацыяналісты, вугорцы — знайшлі супольную плятформу, хоць гэта, здавалася б, немагчыма. (Беларускія апазыцыянэры лічаць такое немагчымым.) Гэтай супольнай плятформай было ўступленьне ў Эўразьвяз і *NATO*. На згодзе вакол гэтага і ўтварылася “маральная большасьць”, што адкінула на задворкі палітычнага жыцьця мэчыярыстаў. Па вялікім рахунку, толькі такая плятформа і магла б стаць сапраўды моцнай і адзінай яднальнай ва ўмовах Беларусі. Такая кааліцыя — назавём яе “Беларусь — у Эўропу” — была б трывалай, бо не злучала б заведама неяднальнага, напрыклад, Калякіна і Севярынца. Яна была б доўгатэрміновай, бо на дасягненьне пастаўленай мэты, як сьведчыць славацкі досьвед, ідзе дзясятак гадоў. Яна дазволіла б абысьці пакінутыя каляніяльнымі адміністрацыямі “міны запаволенага дзеяньня” — моўныя, рэлігійныя пытаньні. Гэтыя пытаньні гісторыя вырашаць у пэўным сэнсе сама сабой. Славацкі прыклад паказвае, што немагчымае можна рабіць будзённым.

Братыслава нагадвае Менск сваёй адкрытасьцю і артыстызмам. Хоць Дунаю нам тут усім, вядома, бракуе.

**Барыс Тумар**

*У матэрыяле выкарыстаныя цытаты з артыкулу “Kwestia słowacka w XX wieku” з “Gazety Wyborczej”.*





па-літоўску, я ніяк ня мог зразумець прызначэньне гэтага склепу. Пакуль мой сябра не патлумачыў: “Дзіма, што ты не зразумеў? Мы ў расстрэльным памяшканьні. Вось бачыш трубу пад шклом? Гэта каб кроў змываць. А рэчы ў цябе пад нагамі, спадзяюся, сам здагадаешся чые”.

У тым страшным падвале “расейцы” расстралялі больш за тысячу чалавек. І ня столькі комплекс віны за суайчыньнікаў апанаваў мяне ў страшным падвале, колькі зайздрасьць да літоўцаў. Бо ім ня трэба шматслоўнай патрыятычнай патэтыкі, каб навучыцца любіць Радзіму й свабоду. Дастаткова прайсьці ў складзе школьнай экскурсіі па прыступках, якія для тысячы тваіх братоў былі апошнім шляхам. Каб ужо назаўжды ведаць, дзе свае, а дзе чужыя.

Пасьля той катавальні неяк нам не жартавалася на тэму нелюбові да расейцаў. Толькі на мяжы, пабачыўшы сур’ёзны твар нашага памежніка ў форме, што не зьмянялася гадоў сорак, сябра сумна пажартаваў. “Вось мы і на радзіме. Тут так, блін, любяць расейцаў!”

Пасьля Вільні Менск уражвае раскошаю падсьветленых фасадаў. Увечары ён выдае на сталіцу цэлай імпэрыі. І назіраючы за натоўпамі бесклапотных маладых людзей, што п’юць піва ля помніка Дзяржынскаму, абмяркоўваюць навінкі Інтэрнэту на вуліцы Леніна, цалуюцца ля будынку КДБ, я адчуў сябе раптам бурклівым старым. Бо ня маю зь імі ні супольных інтарэсаў, ні супольных радасьцяў. І ніяк не магу ўявіць музэй генацыду за зіхоткім фасадам КДБ. “Рускіх яны сапраўды любяць, — сказаў я сябру, — толькі рускіх сябе. Бо ўсе астатнія для іх — “нярускія”. Лабусы, чорныя, чучмекі, піндосы, вузкавокія, пшэкі. Для іх мы таксама “нярускія”. Бо не па-руску разгаварываем”.

“Ну й чаго ты гэтым пераймаешся? — усьміхнуўся сябра. — Жыць можна й у лепразорыі. Галоўнае — асабістая гігіена”.

**Зьміцер Бартосік**



Лета народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін бавіў у Вушачах. У ліпені—жніўні бацькоўская хата на Школьнай вуліцы зноў ажыла. Жонка Валянціна, унучка Дамініка, бард Алесь Камоцкі, паэтка Галіна Варатынская, мэдык Пётра Кухарскі і кот Мірон не давалі дзядзьку Рыгору сумаваць.

— Тут заўсёды адчуваю, нібы няма за плячыма доўгага ланцужку пражытых гадоў, — кажа барадаты гаспадар, пагладжваючы вялікае дрэва каля брамы. — Гэтае дрэва я садзіў разам з бацькам яшчэ перад вайной.

У матчынай хаце паэт мае свой "парнас" — асобны пакойчык наверсе. Стосы кніг, партрэты і пэйзажы на сьценах, рукапіс на стале...

Маю працу над яго партрэтам паэт ушанаваў кніжыцаю "Здубавецьця", падпісанаю па-барадулінску калюча і дасьціпна. Таму дзецям гэты "вушацкі фальклёр" паказаць пакуль не насьмелюся.

**Анатоль Кляшчук. Фота аўтара**

# Барадулінскае лета



Дзядуля і ўнучка



Кот Мірон з гаспадаром



...з поўнымі



На "парнасе"



Госьці барадулінскага двара: паэтка Галіна Варатынская, доктар Пётра Кухарскі і сястра Васіля Быкава Валянціна.

# Адысэя Антона Цьвячкоўскага

**У кнізе айца Аляксандра Надсана "Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі, 1924—38" (Лёндан, 2001) сярод гадунцоў беларускіх айцоў-марыянаў з Друйскага кляштару згадваецца Антон Цьвячкоўскі. Быў ён сябрам яшчэ аднаго марыянскага студэнта — Чэслава Сіповіча, будучага біскупа, апостальскага візытатара беларусаў-каталікоў на эміграцыі. Яны разам вялі хроніку студэнцкага дому на Жыгімонта, 24 у Вільні. Пазьней, калі Цьвячкоўскі пакінуў марыянаў, ліставаліся. Далей іх шляхі разышліся. Антона Цьвячкоўскага чакалі шматлікія выпрабаваньні.**



**Антон Цьвячкоўскі са сваёй знаёмай, 1960 г.**

"Ён быў вясёлы, добры, выдатны гумарыст, аратар. Ніколі нічога ня меў, бо ўсё раздаваў людзям", — успамінае ягоны сябра з-пад Шаркаўшчыны Віктар Сікора.

Паходзіў Антон Цьвячкоўскі зь вёскі Шальчыны на Мёршчыне. Пра сям'ю ягоную вядома, што былі ў яго брат і сястра. Скончыўшы гімназію, Антон вырашыў прысьвяціць сябе служэньню Богу. Пасьля закрыцьця польскімі ўладамі Друйскага кляштару, Цьвячкоўскі вучыўся ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, адкуль быў выключаны за беларускую дзейнасьць. Больш за тое, польскія ўлады забаранілі яму жыць у Заходняй Беларусі. Нейкі час ён быў у Львове, а пасьля — у Варшаве. Зь беларускім рухам не перапыняў кантактаў, друкаваўся ў віленскім часопісе "Шлях моладзі".

### "Шпіён" у нямецкім тыле

Пачатак другой сусьветнай вайны Антон Цьвячкоўскі сустрэў у Варшаве. Карыстаючыся ваеннай сумятнёю, ён вырашыў вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Пад бамбёжкамі дабраўся да Буга і пераплыў яго. Пазьней Цьвячкоўскі пісаў пра сваё падарожжа ў віленскай "*Krynicy*" (5 сьнежня 1939 г.): "Падняў галаву, уздыхнуў глыбака, азірнуўся навокал, быццам баючыся, ці хто ня бача, што я родную маці-зямлю асьмяляюся таптаць, — пайшоў па вёсках, хутарох і сёлах Заходняе Беларусі, кіруючы свае крокі да слаўнае Вільні". Па дарозе Цьвячкоўскі захапіўся беларускім фальклёрам: запісваў песьні, зьбіраў паясы, ручнікі, мастацкую кераміку ды іншае — нібыта забыўся, што йдзе вайна... Сам Цьвячкоўскі прызнаваў, што, "абчэплены ўсім гэтым, выглядаў скарэй на якогась варажбіта, чымся на падарожніка-ўцекача".

Пакуль бальшавікі марудзілі са сваім "вызвольным паходам", нямецкія войскі ўвайшлі ў Берасьце й пайшлі далей — на Кобрынь. У вёсцы Більдзюкі спаткаў немцаў і Цьвячкоўскі. Ён ведаў нямецкую мову і ўзяўся дапамагаць сялянам і нямецкім вайскоўцам паразумецца. Афіцэр нават запрасіў Антона ў сваю часьць на абед. Той скарыстаўся запрашэньнем яшчэ і для таго, каб паглядзець зблізку на нямецкую тэхніку. За гэта жандармэрыя арыштавала небараку як "шпіёна". "Было мне цёпла і горача, — успамінаў ён. — Бараніўся ўсімі языкамі, якія ведаў. Па скуры хадзілі мурашкі". І ўсё ж Цьвячкоўскі здолеў пераканаць немцаў у сваёй невінаватасьці. Яны адпусьцілі яго, парадзіўшы хутчэй ісьці ў Вільню ды ня граць больш ролі "вучонага-этнографа".

9-8-57 г.
Дарагі Віктар Іванавіч
Пісьмо ад Цябе атрымаў. Падзяка.
Доўга выбіраўся да Вас у госьці.
[illegible] з ваенкаматам, сенакос
перашкаджалі. Учора атрымаў тэ-
леграму з Вільні ад Вацлава зьместам
„Срочно приезжайте учительствовать".
Сёньня здаецца атрымаю ваенбілет.
Еду у Вільню. Мо' удасца. Паглядзім.
[illegible]

**Паштоўка Антона Цьвячкоўскага да Віктара Сікоры ад 9 жніўня 1957 году: "...Учора атрымаў тэлеграму зь Вільні ад Вацлава зьместам: "Срочно приезжайте учительствовать". Сёньня, здаецца, атрымаю ваенбілет. Еду ў Вільню. Мо' удасца".**

### Паход на Маскву

Да пачатку нямецка-савецкай вайны Антон Цьвячкоўскі жыў у Літве, працаваў настаўнікам, падтрымліваў сувязь са сваімі старымі сябрамі. Толькі Чэслаў Сіповіч быў ужо далёка — у Рыме. Будучы генэрал ордэну марыянаў на Бацькаўшчыну ўжо ня вернецца ніколі...

Летам 1941 г. войскі Трэцяга Райху нагналі Цьвячкоўскага на Віленшчыне. І зноў ён "засьвяціўся" перад немцамі — прадэманстраваў сваё веданьне нямецкай мовы. Яго адразу ж мабілізавалі перакладчыкам. Калі Антон Цьвячкоўскі паспрабаваў уцячы з вайсковай часьці каля Маладэчна, у яго забралі цывільную вопратку, пакінуўшы толькі вайсковую.

Віктар Сікора сьцьвярджае, што Антон Цьвячкоўскі разам зь нямецкім войскам дайшоў аж да Масквы. Там Антон і атрымаў дзьве кантузіі ды магчымасьць вярнуцца ў Беларусь. Сябры яшчэ неаднойчы будуць чуць ад яго расказы пра "паход на Маскву". Расказваў, што ўцякаць больш не спрабаваў: каб злавілі, адразу расстралялі б...

### Уцёкі ад партызанаў

Дзесьці ў 1943 г. Цьвячкоўскага прызначылі бурмістрам Паставаў. У той час якраз ішла барацьба паміж беларусамі і палякамі за адміністрацыйныя пасады. Віктар Сікора сьцьвярджае, што палякі стараліся Цьвячкоўскага, як беларускага патрыёта, скампрамэтаваць перад немцамі. Відаць, удала. Аднойчы немец — начальнік жандармэрыі ўдарыў Цьвячкоўскага па твары. Той паехаў са скаргай у Глыбокае, дзе быў цэнтар акругі. Па дарозе назад напароўся на савецкіх партызанаў.

Яны пазналі бурмістра і пачалі яго біць. Гаварылі, што "гэта першы допыт, і цябе пакуль з кулаком дапытваем, на наступныя допыты прыедзе сам камандзір брыгады, ён сьцізорыкам будзе табе скуру здымаць".

Антона Цьвячкоўскага ў адным споднім зачынілі ў нейкім хляве. Ратуючыся ад гібелі, ён цудам разьвязаў вяроўкі на руках і праз шчыт уцёк. Трапіў на нейкі хутар. А там ужо былі партызаны. Цьвячкоўскі закапаўся ў кастру каля лазьні і цэлы дзень там хаваўся. На хутар заяжджала пагоня, хадзілі партызаны каля самай лазьні, але яго не знайшлі. Лясьнымі дарогамі пайшоў Цьвячкоўскі далей. "Куды ішоў — ня ведаў", — расказваў ён пасьля. Зайшоў у вёску Сіўцы да знаёмых, якія далі яму адзеньне. Цьвячкоўскі сеў на цягнік і паехаў у Менск. Там ён, паводле ўспамінаў Віктара Сікоры, працаваў у рэдакцыі часопісу "Беларус на варце", жыў на адной кватэры разам з Язэпам Найдзюком і Лявонам Галяком.

Летам 1944 г. Антон Цьвячкоўскі выехаў зь Беларусі ва Ўсходнюю Прусію. Жыў у Кёнігсбэргу. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусі захоўваецца позва, якую 5 лютага 1945 г. накіраваў Цьвячкоўскаму з Бэрліну генэрал Кастусь Езавітаў: "Гэтым Вы паклікаецеся на службу ў Беларускае Войска. Зьявіцца неадкладна ў Вайсковы Аддзел пры Беларускай Цэнтральнай Радзе". Ці служыў ён там, невядома. Невядома таксама, калі Антон Цьвячкоўскі трапіў у рукі бальшавікоў.

Атрымаў ён 20 гадоў зьняволеньня. У 1951 г. у вугальнай шахце на Калыме зь ім здарыўся няшчасны выпадак — паламаў нагу, рэбры. Лягерныя гады так зьмянілі Антона, што знаёмыя і сваякі падчас першай сустрэчы яго не пазнавалі...

### Чужыя песьні

На волю Цьвячкоўскі выйшаў у 1956-м. Зноў паехаў у Літву, дзе доўга ня мог знайсьці працу. 25 сьнежня 1956 г. ён пісаў да Віктара Сікоры:

"*Дарагі Віктар Іванавіч!*

*Сёньня сьвята, але настрой душы зусім не сьвяточны. Сяджу дома. Няма куды пайсьці разьвеяць хандру. Ня маю такога сябры, перад якім можна было б адкрыць душу і выказаць усё тое, што набалела на пячонцы. Астаўся Ты ў мяне адзін, якому я давяраю і каму я хачу сказаць усё адкрыта. Думаю, мяне зразумееш, не пасьмяешся і не раскажаш іншым. Асабіста я вельмі хацеў адведаць Малыя Алашкі, каб асабіста пагутарыць з Табою, бо паперы ня хочацца зусім давярацца. Матэрыяльныя ўмовы не пазволілі. Проста кажучы, у кішэнях веюць ветры. Жыву так бедна, як ніколі яшчэ ня жыў. Пака безработны. Маніўся ўстроіцца нарміроўшчыкам у МТС, не ўдалося. У калхоз паступіць — мала толку. На працадні бадай нічога не атрымоўваюць калхозьнікі. Жывуць з сотак і з таго, што ўкрадуць у калхозе. Здароўе — разьбітае карыта, або жораў з падстрэленым крылом і зламанай нагой.*

*Зуб часу (12 гадоў) выгрыз у мяне 8 зубоў, паламаў правую нагу, 3 рэбрыны і парушыў касьцяк. Валасы мае ўжо ўпрыгажае сярэбраная сівізна. Жыцьцё яшчэ шавеліцца ў касьцёх — як мокрае гарыць. Думаю, хутка ўжо патухне, "дагарыць мая лучына". У роднай Старонцы адчуваю сябе чужым. Старых сяброў пагубляў, а новых шукаць ужо ня хочацца. Моладзь наша пяе ўжо іншыя, чужыя песьні. Аднак я далёкі ад усялякіх дурных думак. Я неадменны аптымісты. Гляджу ў будучае ў розавых красках. Гол як сакол — гавару, мне добра жывецца; сумна на душы — я сьмяюся; баляць паламаныя косьці — я сьпяваю песьні.*

*Жыву я вельмі скромна. На вечарынкі рэдка хаджу. Маладыя гускі не глядзяць нат' у мой бок. Часамі толькі вясёлыя ўдавіцы страляюць у беднага калымчаніна. Зь імі я знаходжу супольны язык. Не жыву я курортнікам або амэрыканскім назіральнікам. Памагаю ў дамашняй працы. Еду ў лес, сяку дровы, кармлю скаціну і да т.п. Вольнай хвілінай чытаю...*"

У архіве Сікоры захавалася яшчэ колькі паштовак Цьвячкоўскага 1957—60 г. Пра далейшы ягоны лёс Віктар Сікора нічога ня ведаў. Той перастаў прыяжджаць, пісаць, а Сікора яго расшукваць не спрабаваў.

Выпадкова натрапіў я на прозьвішча Антона Цьвячкоўскага ў "Слоўніку беларускіх псэўданімаў" (Менск, 1983) Янкі Саламевіча. Аўтар, са словаў віленчука Янкі Багдановіча, падаваў псэўданімы Цьвячкоўскага ў часопісе "Шлях моладзі": "Наддзьвінец", "Наддзьвінскі". Віктар Сікора дадае яшчэ некалькі ягоных псэўданімаў: "Антон Хітры" і "Антон Спрытны". Падаў Саламевіч і дату сьмерці Цьвячкоўскага: 16 красавіка 1974 г. Янка Багдановіч колісь паведаміў яму, што памёр і пахаваны Антон Цьвячкоўскі ў Вільні.

**Сяргей Ёрш**

удакладненьне

## Толькі для Чырвонага касьцёлу

Вельмі пахвальна, што "НН" не абмінае сваёй увагаю дзейнасьць Каталіцкага Касьцёлу ў Беларусі. Гэтым газэта спрыяе справе адраджэньня ў народзе ягонай самабытнасьці, пашырэньня хрысьціянскай маралі і духоўнасьці.

Вось і на гэты раз у нумары газэты ад 23 жніўня быў апублікаваны артыкул "Сьпеўнік ксяндза Завальнюка". На вялікі жаль, гэтым разам не абышлося безь некаторых недакладнасьцяў. Асабліва прыкрая зь іх сьцьвярджэньне, што невялікі наклад сьпеўніка "прызначаецца для распаўсюду па каталіцкіх парафіях, якіх у Беларусі больш за чатыры сотні". Але, як вядома, парафіяльны касьцёл ня можа распаўсюджваць сваю друкаваную літаратуру па-за межамі сваёй парафіі без дазволу духоўных зьверхнікаў. І калі ксёндз-пробашч не зьвяртаўся да іх па дазвол, дык гэта сьведчыць, што ён, у дадзеным выпадку ксёндз Уладыслаў Завальнюк, ня меў нават намеру распаўсюджваць слоўнік у іншых парафіях.

Невядома, зь якіх крыніцаў зьявілася вышэйзгаданая недакладнасьць, бо ў сапраўднасьці сьпеўнік прызначаны толькі для ўнутраных патрэб касьцёлу сьв.Сымона і Алены і патрэб ягоных парафіянаў. Невялікі наклад (300 асобнікаў) сьведчыць пра гэта.

Дарэчы, трэба адцеміць, што выданьне такога сьпеўніка, яго падрыхтоўка былі распачатыя згодна з жаданьнем парафіянаў, якія ахвяравалі на гэта грошы.

**Алесь Траяноўскі**

**Ад рэдакцыі.** Перапрашаем за недакладнасьць.

**Разам з восеньню пачаўся новы тэатральны сэзон. Сярод сёлетніх прыярытэтаў — п'есы Купалы і Курэйчыка. Рэжысэры па-ранейшаму аддаюць перавагу айчыннай драматургіі. Пра тое, чым яшчэ будзе адметны гэты сэзон, мы запыталіся ў Сяргея Кавалёва, крытыка і драматурга, аўтара п'есаў "Трышчан ды Іжота", "Стомлены д'ябал", "Баляда пра Бландою", "Саламея" і інш.**

# Эпоха Дударава скончылася


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**"НН": Чаго Вы чакаеце ад новага тэатральнага сэзону?**

**С.К.:** Пастаноўкі маёй п'есы "Тарас на Парнасе" ў Віцебскім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. Віталь Баркоўскі вельмі хацеў, каб прапрэм'ера адбылася на Віцебшчыне: менавіта адтуль паходзіў Канстанцін Вераніцын, верагодны аўтар паэмы.

Апроч таго, у гэтым сэзоне Міністэрства культуры праводзіць конкурс на лепшыя п'есы. У выніку зьяўляюцца дзясяткі новых твораў, зь якіх потым можна нешта выбіраць. Вельмі шмат надараецца слабых п'ес, але бываюць і ўдачы.

**"НН": А чаго варта чакаць гледачам?**

**С.К.:** Гэты сэзон можна назваць "купалаўскім": у нас ёсьць адразу тры новыя пастаноўкі паводле самага загадкавага твору Купалы — паэмы "Сон на кургане". Летась у Горадні зьявілася лялечная пастаноўка Алега Жугжды, у Віцебску спэктакль ставіць Віталь Баркоўскі, а ў Расейскім тэатры ў Менску — Барыс Луцэнка. Ды яшчэ спэктакль "Адвечная песьня" ў Тэатры беларускаай драматургіі.

**"НН": Ці толькі паводле твораў Купалы будуць ісьці асноўныя спэктаклі?**

**С.К.:** Варта назваць яшчэ імя Андрэя Курэйчыка. Пастаноўкі ягоных п'есаў рыхтуюць Тэатар беларускай драматургіі, Тэатар юнага гледача, Купалаўскі.

**"НН": Беларускі тэатар перажываў "эпоху Крапівы", "эпоху Макаёнка", потым — "эпоху Дударава". Цяпер надышла "эпоха Курэйчыка"? Такая монацэнтрычнасьць, арыентаванасьць на аднаго аўтара — гэта характэрная рыса беларускага тэатру?**

**С.К.:** Відаць, унутраная ўласьцівасьць. Праўда, ёсьць пэўная праблема ў тым, што сёньня амаль усе тэатры імкнуцца паставіць п'есы Курэйчыка. Зь імі працуюць рэжысэры, старэйшыя за аўтара. У іх іншы досьвед, іншы погляд на жыцьцё. Я думаю, п'есы маладога драматурга павінен ставіць рэжысэр ягонага пакаленьня — блізкі яму па сьветаглядзе. Аднак маладых новых рэжысэрскіх імёнаў якраз і не чуваць апошнім часам.

**"НН": Але чаму з імёнаў маладых драматургаў чуваць *толькі* імя Курэйчыка?**

**С.К.:** Зь цяперашняга пакаленьня ён самы таленавіты і працаздольны. Дый рэжысэрам заўсёды прасьцей працаваць з адным аўтарам: на яго ўсе арыентуюцца, ведаюць, што ад яго чакаць.

У драматургаў пакаленьня "тутэйшаўцаў" не было свайго лідэра, кшталту Кандрата Крапівы ці Андрэя Макаёнка. Кожны пісаў так, як сам хацеў: Міраслаў Шайбак з Максімам Клімковічам пісалі фарсы, дэтэктывы, Ігар Сідарук напісаў першую п'есу абсурду па-беларуску, я працаваў над "гермэнэўтычнымі" п'есамі, якія ядналі тэатар і літаратуру... Была большая жанравая і тэматычная разнастайнасьць. Папярэднім пакаленьням было цяжэй. Так, за постацьцю А.Макаёнка прамільгнуў незаўважаны нашым тэатрам драматург Уладзімер Караткевіч зь ягонымі гістарычнымі драмамі.

**"НН": А чым вызначаецца "пакаленьне Курэйчыка"?**

**С.К.:** Яны практычна ўсе пішуць пакуль па-расейску. Назаву яшчэ Андрэя Карэліна, напрыклад. Наагул, існуе мяжа паміж беларускай культурай і беларускім тэатрам. Падстаповыя рэчы, якія вызначаюць беларускую культуру, адсутнічаюць у нашым тэатральным асяродзьдзі. І гэта — аб'ектыўная прычына таго, што драматургі ня пішуць па-беларуску.

Другая прычына расейскамоўнасьці — асабістага характару. Андрэй Курэйчык імкнецца стаць вядомым ня толькі ў Беларусі, але і на ўсёй постсавецкай тэрыторыі. І піша па-расейску, каб п'есы маглі паставіць расейскія рэжысэры. Першы пераклад ягонага твору для "купалаўцаў" зрабіў Аляксей Дудараў. Праўда, Андрэй сам зрабіў беларускі варыянт сваёй найлепшай на гэты час п'есы "П'емонцкі зьвер".

Ня ведаю, мо і ня варта было б пераўвасабляць расейскамоўныя тэксты на беларускую мову. Большасьць жа тэатраў расейскамоўныя. Мне вельмі не падабаецца, як перакладаюць п'есы.

**"НН": Але ці ня выкліча гэта зьяўленьня "расейскага тэатру ў Беларусі"?**

**С.К.:** Не, гэта будзе беларускі тэатар зь беларускай драматургіяй. Але — напісанай па-расейску. Нацыянальная традыцыя вызначаецца ня толькі драматургіяй, але і рэжысурай, і акторскай гульнёй. Праўда, у Беларусі апошнім часам стаўка робіцца менавіта на драматургію: на міжнародных фэстывалях нашыя тэатры выступаюць зь беларускімі п'есамі. Тут можна згадаць, напрыклад, пастаноўку В.Баркоўскага "Шагал, Шагал" паводле п'есы Ўладзімера Драздова, пастаноўкі паводле твораў А.Паповай, паводле маіх п'есаў... Гэта вылучае наш тэатар спаміж іншых, якія арыентуюцца на клясыку (як сусьветна вядомы літоўскі тэатар). І ў гэтым вялікую ролю адыграў тэатар Валер'я Мазынскага "Вольная сцэна". Ён спалучыў беларускую культуру і беларускі тэатар.

**"НН": А як бы Вы ацанілі тое, што адбылося з "Вольнай сцэнай"?**

**С.К.:** Гэта трагедыя найперш для актораў, якія разышліся ў два тэатры: у "Вольнай сцэне" ў іх склаўся быў цудоўны калектыў. Тэатар ведалі. Я час ад часу анкетаваў студэнтаў, і яны адказвалі, што ведаюць Купалаўскі і "Вольную сцэну".

Мазынскаму варта было пакінуць назву ў гісторыі й не забіраць з сабой у новы калектыў. Бо гэта быў менавіта той тэатар. Усё нашае пакаленьне было зьвязанае зь ім. Нават пасьля таго, як яго перайменавалі ў "Тэатар беларускай драматургіі", калектыў застаўся з старой назвай — іначай іх ніхто не называў нават у прэсе, толькі "Вольнай сцэнай". А цяпер у гледачоў пэрыядычна ўзьнікае блытаніна. Нават сярод сваіх студэнтаў я чуў такія размовы: "Пойдзем на "Вольную сцэну". — "А на старую ці новую?"

**"НН": Як уплываюць на тэатральнае жыцьцё Беларусі прыватныя тэатры: "Мікола-тэатар", "Малы тэатар" і г.д.?**

**С.К.:** Адна з самых сумных зьяваў у тэатральным жыцьці Беларусі — амаль поўная адсутнасьць незалежных тэатраў, альтэрнатыўных. У Польшчы ёсьць дзяржаўныя, рэпэртуарныя тэатры і ёсьць альтэрнатыўныя. Яны, па сутнасьці, таксама дзяржаўныя: належаць муніцыпальным уладам ці ўнівэрсытэтам. Але яны робяць экспэрымэнтальныя пастаноўкі. У нас падобную ролю адыгрываў студыйны рух, зь якога выйшлі Віталь Баркоўскі, Рыд Таліпаў, Мікола Трухан.

Раней у Менску быў "Альтэрнатыўны тэатар" — з сваёй палітыкай, сваёй праграмай. Там была адроджаная "Камэдыя", якая дагэтуль ёсьць найлепшай пастаноўкай "Малога тэатру" — пераемніка "Альтэрнатыўнага". Аднак збольшага "Малы тэатар" сёньня займаецца антрэпрызамі — арганізацыяй гастроляў расейскіх тэатраў.

Цяперашнія прыватныя тэатры засяроджваюцца пераважна на лёгкіх францускіх камэдыях. Мікалай Пінігін у "Мікола-тэатры" — гэта зусім ня той Пінігін, якога мы ведаем па "Тутэйшых" і "Ідыліі". Там няма эстэтычных пошукаў, бо рэжысэр вымушаны арыентавацца на патрабаваньні публікі. У гэтым ён вельмі жорстка абмежаваны.

**"НН": А прыватныя праекты?**

**С.К.:** Прыватныя праекты ў нас не прыжыліся. Вельмі цяжка знайсьці сродкі на пастаноўку: багатыя людзі баяцца паказваць, што ў іх ёсьць грошы. Дзяржаўныя праекты фінансуюцца кепска, рыхтуюцца доўга, але ўсё ж даюць большы шанец на рэалізацыю.

А сёньня ад Беларусі на тэатральных фэстывалях чакаюць таго, чаго практычна ня робяць дзяржаўныя тэатры, — новага слова, нетрадыцыйных пастановак. Прыкладам зробленага ў апошні час можна назваць пастаноўку "Больш чым дождж", зробленую маладымі купалаўцамі з дапамогаю Фонду падтрымкі культуры, — незалежны праект, ацэнены ня толькі ў Беларусі.

**Гутарыў Аркадзь Шанскі**

# Эфэкт Анісімава

## *Філярманічны сэзон распачаўся ў Опэры*


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

У эпоху лядовых палацаў ня варта спадзявацца на хуткае будаўніцтва новае канцэртнае залі. У мэляманаў адна надзея: абы адрамантавалі старую залю на плошчы Якуба Коласа да пачатку наступнага філярманічнага сэзону. Цяпер Філярмонія, як вядома, закрытая з прычыны таго, што сьцены будынку далі расколіны.

Мастацкі кіраўнік Беларускай філярмоніі Юры Гільдзюк абяцае, што праблемы зь філярманічным будынкам амаль не адаб'юцца на інтэнсіўнасьці сталічнага канцэртнага жыцьця. 23 верасьня Філярмонія адчыніла свой 65-ы сэзон.

Першы канцэрт адбыўся ў Опэры, якая дазволіла скарыстацца сваёй заляй амаль бясплатна — Філярмонія мусіла аплаціць толькі паслугі дапаможнага пэрсаналу. Шмат клопату было з транспартаваньнем неабходных прыладаў: крэслаў для аркестрантаў, дырыжорскага подыюму, а галоўнае — канцэртнага раялю "*Stainway*".

Кіраўніцтва Філярмоніі добра перанэрвавалася, пакуль каштоўны інструмэнт заняў новае (часовае) месца. Аднак іншага выйсьця не было. Раяль Опэры непрыдатны ўжо нават для акампанэмэнту. Між тым, філярманічны сэзон адкрываў знакаміты Андрэй Паначэўны. А значыцца, і раяль мусіў быць найлепшы ў краіне (хоць і ён, згаданы "*Stainway*", далёкі ад дасканаласьці).

Другім героем вечара быў дырыжор Аляксандар Анісімаў. Вось ужо другі сэзон запар ён узначальвае абодва вядучыя беларускія аркестры: Дзяржаўны акадэмічны сымфанічны і аркестар Опэры. Магчыма, дзякуючы гэткаму сумяшчэньню пасадаў і ўдалося арандаваць опэрную залю задарма. Гэтым разам Анісімаў стаяў на чале філярманічнага калектыву. Заля была поўная. З аркестравай ямы выцягнулі ўсе крэслы і расставілі ў партэры, бо месцаў не хапала. Не ставала й праграмак, у якіх былі б надрукаваныя ня толькі біяграфіі саліста і дырыжора, але й прозьвішчы ўсіх аркестрантаў.

Народ сабраўся найперш для таго, каб паслухаць Паначэўнага — ляўрэата сёлетняга конкурсу імя Чайкоўскага. Вечар распачаўся з выкананьня Другога канцэрту для фартэпіяна з аркестрам Сяргея Рахманінава, у якім саляваў Андрэй Паначэўны. Шчыра кажучы, я была ўпэўненая, што значная частка публікі пасьля ягонага выступу не захоча слухаць груваскую, цяжкую для ўспрыманьня Другую сымфонію Рахманінава. Аднак пасьля антракту ўсе слухачы вярнуліся на свае месцы. Прычым сп.Анісімаў здабыў нашмат больш воплескаў, чым сп.Паначэўны.

Сапраўды, выступ Анісімава аказаўся болей эфэктным. Аркестар, які ў апошнія гады рэдка цешыў нас якасьцю ігры, зайграў сымфонію дасканала, як за лепшымі сваімі часамі. Асабліва ўразілі сваім поўным і гнуткім гучаньнем віялянчэлі і кантрабасы, а таксама драўляныя духавыя інструмэнты. Дый маэстра грунтоўна прадумаў

# Малады кіраўнік састарэлае арганізацыі

## *Пазачарговы зьезд Саюзу пісьменьнікаў абраў старшынём 30-гадовага раманіста Алеся Пашкевіча*

Млявымі й абыякавымі да жыцьця пісьменьнікаў назваць цяжка. У пэўныя моманты Зьезду здавалася, што пазьбегнуць расколу Саюзу на дзьве арганізацыі ня ўдасца. Падзел прайшоў па пытаньні адносінаў пісьменьніцкай арганізацыі да рэжыму. Старшыня Саюзу Вольга Іпатава і "непажаданыя" пісьменьнікі казалі пра ўціск з боку ўлады. "Дзяржаўнікі" пярэчылі ім: улада ў нас "харошая". А прычыну "бядотнага стану беларускай літаратуры" рэдактар "Полымя" Мікола Мятліцкі бачыць у засільлі камэрцыйных кніжак.

Супрацоўнік Адміністрацыі прэзыдэнта пісьменьнік Эдуард Скобелеў спрабаваў расплюшчыць прысутным вочы на "падзеньне ўзроўню жыцьця на Захадзе, дзе ўшчамляюцца правы рабочых, а банды дылераў здольныя перавярнуць любую краіну". Выступоўца зь месца наракаў на Г.Бураўкіна, які нібыта хацеў стаць прэзыдэнтам Беларусі і ЗША давалі "пад яго" мільярд даляраў. Алег Бембель — колісь паэт Зьніч, а цяпер айцец Мікалай з Жыровічаў — заклікаў пісьменьнікаў змагацца супраць абортаў, а потым прасіў унесьці адпаведны пункт у выніковую рэзалюцыю зьезду. Алесь Марціновіч гучна абураўся тым, што ягонай кандыдатуры ня вылучылі ў Раду Саюзу. Давялося вылучыць. Група маладзейшых пісьменьнікаў у абед ужо не трымалася на нагах. Старшыня зьезду геніяльна зьвяртаўся да ўсяе гэтае грамады: "Шаноўныя таварышы..."

Любыя практычныя прапановы танулі ў агульным рамантычным шуме, а добрая частка выступоўцаў слухала толькі саміх сябе. Напрыклад, так ніхто і не разьвіў цьвярозай ідэі Ўладзімера Навумовіча пра стварэньне ў Беларусі свайго Літаратурнага інстытуту ці хоць бы Вышэйшых літаратурных курсаў.

Асноўная барацьба паміж "нацыянал-дэмакратамі" і "дзяржаўнікамі" разгарэлася вакол пасады старшыні СП. Пяць прапанаваных кандыдатураў увасобілі ўсе магчымыя варыянты выбару: Вольга Іпатава, Мікола Мятліцкі, Анатоль Бутэвіч, выкладчык БДУ Алесь Пашкевіч і рэдактар часопісу для малодшых дзетак "Вясёлка" Ўладзімер Ліпскі. Паколькі на карысьць А.Пашкевіча выказаліся У.Арлоў, А.Кудравец, Я.Брыль, стала відавочна, што шанцаў у апанэнтаў няшмат. В.Іпатава зьняла сваю кандыдатуру на ягоную карысьць. Тое самае зрабіў М.Мятліцкі: "Няхай дарога будзе адкрытая маладосьці". Зьняў сваю кандыдатуру і А.Бутэвіч. Тады адзін зь сяброў Саюзу ўстаў ды ўрэзаў праўду-матку: "За кандыдатурамі, якія прапануюць Бураўкін, Гілевіч і кампанія, стаіць *NATO*"...

Перадвыбарныя прамовы кандыдатаў на пасаду старшыні былі часам залішне ўзьнёслымі. Пытаньняў кандыдатам не задавалі. У выніку А.Пашкевіч атрымаў 159 галасоў, У.Ліпскі — 118. Большасьць сяброў пісьменьніцкай арганізацыі па-ранейшаму цьвёрда і сьвядома стаяць на нацыянальных і дэмакратычных пазыцыях, што і выказалі сваім выбарам.

Найлепшае, што мог бы зрабіць старшыня Саюзу для дабра нацыянальнае літаратуры, — гэта разваліць арганізацыю. Аднак ніводзін з прэтэндэнтаў на ролю Гарбачова не цягнуў. Ні адзін, ні другі ня бачаць нічога заганнага ў існаваньні арганізацыі, якая прэтэндуе на манапольнае прадстаўленьне *ўсяе* нацыянальнае літаратуры. Характэрна, што А.Пашкевіч выказаў прапанову, каб ад прадажнага кошту ўсіх выданьняў Саюзу пісьменьнікаў пералічваўся пэўны працэнт. Гэтае нежаданьне


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

літаратараў разьвітвацца з савецкай спадчынай і зрабіла сумнае ўражаньне.

Зьезд скончыўся, але самыя галоўныя пытаньні — маёмасныя — засталіся нявырашанымі. Агульны сход сяброў Літаратурнага фонду, які валодае асноўнай пісьменьніцкай нерухомасьцю, прызначаны на сьнежань. Менавіта дырэктар Літфонду Вячаслаў Мачульскі быў галоўным апанэнтам В.Іпатавай.

Яшчэ на зьезьдзе прэзэнтавалі часопіс "Дзеяслоў", зь якім зьвязваюцца надзеі на ажыўленьне літаратурнага працэсу. Новаабраны Алесь Пашкевіч зьяўляецца намесьнікам рэдактара гэтага выданьня.

**Аркадзь Шанскі**

# Першы "Дзеяслоў"

**24 верасьня выйшаў №1 новага літаратурнага часопісу "Дзеяслоў", заснаванага пісьменьнікамі, што сышлі зь дзяржаўных літаратурных выданьняў. Галоўны рэдактар "Дзеяслову" — Барыс Пятровіч, ягоныя намесьнікі — Эдуард Акулін і Алесь Пашкевіч. Матэрыялы ў часопісе групуюцца па чатырох разьдзелах — "Паэзія", "Проза", "Пераклады", "Публіцыстыка, крытыка, мастацтва".**

Паэзія ў "Дзеяслове" прадстаўлена вэрсэтамі Алеся Разанава, паэмай "Палянэз" Уладзімера Някляева, танкамі й гекзамэтрамі Ніла Гілевіча, а таксама творамі Яна Чыквіна, Леаніда Дранько-Майсюка, Міхася Скоблы, Алеся Пісьмянкова і Юліі Гайдуковай.

У разьдзеле "Проза" можна прачытаць апавяданьні Сьвятланы Алексіевіч, лірычныя замалёўкі Янкі Брыля, апавяданьне Андрэя Федарэнкі, любоўна-крымінальную фантасмагорыю Міколы Захаранкі, "Віцебскія эцюды" Сяргея Рублеўскага і аповесьць Юр'я Станкевіча "Ліст у Галяктыку "Млечны шлях".

У разьдзеле "Пераклады" ўсяго адзін твор — п'еса ўкраінскага пісьменьніка Аляксандра Ірванца "Электрычка на Вялікдзень". Зрэшты, эсэ Фарыда Закарыя "Карані гневу", прысьвечанае праблемам узаемаадносін арабскага сьвету і ЗША, таксама пераклад, хоць і трапіла ў рубрыку "Публіцыстыка, крытыка, мастацтва". Тамсама можна прачытаць эсэ Анатоля Кудраўца пра Віктара Карамазава, артыкул Анатоля Сідарэвіча "Паэт і дыктатура", прысьвечаны юбілею Янкі Купалы, гутарку з Алесем Асташонкам, інтэрнэт-форум Сяргея Дубаўца, крытычныя нарысы Людмілы Рублеўскай, Пётры Васілеўскага, Сьвятланы Берасьцень, Галіны Багданавай, Яўгена Рагіна і Ірыны Шаўляковай.

Адзначаючы неабходнасьць "вяртаньня да спрадвечных асноваў роднай мовы", рэдакцыя пайшла на камбінацыю "наркамаўкі" й "тарашкевіцы". Ад апошняй запазычаная толькі практыка ўжываньня мяккага знаку для пазначэньня асыміляцыйна памякчаных зычных ды правапіс прыназоўніка "без" і часьціцы "не" перад словамі з націскам на першы склад. Словы іншамоўнага паходжаньня пішуцца ў адпаведнасьці з "наркамаўскімі" нормамі.

**С.П.**

адкрыцьцё сэзону ў Опэры

# Тацяна ды іншыя

**Апошнім часам "Яўген Анегін" ператварыўся ў нас у спэктакль для школьнікаў. З гэтай прычыны дэбют Тацяны Трацяк у ролі пушкінскай Тацяны прайшоў 23 верасьня незаўважна.**

Тацяна Трацяк — артыстка зь незвычайнай біяграфіяй. Перш чым зрабіцца салісткай Опэры, яна скончыла фартэпіянны факультэт Кансэрваторыі і на працягу некалькіх гадоў працавала канцэртмайстаркай у опэрным тэатры. Сваёй прафэсіяй яна валодала дасканала. Найлепшыя вакалісты імкнуліся да супрацоўніцтва зь ёю. Аднак Тацяна марыла пра кар'еру опэрнай сьпявачкі.

Нягледзячы на адміністрацыйныя перашкоды, яна ў 1992 г. здолела паступіць на вакальнае аддзяленьне Акадэміі музыкі. У траўні 1993-га яна дэбютавала на опэрнай сцэне ў невялічкай ролі Брыгіты ў прэм'ерным спэктаклі "Іяланта". А потым для яе распачалася эпоха буйных роляў: у 1996 г. — Сюзана ў "Вясельлі Фігара", потым Віялета ў "Травіяце", Разіна ў "Сэвільскім цырульніку", Лючыя дэ Лямэрмур у аднайменнай опэры, Мікаэла ў "Кармэн", Мюзэта ў "Багеме". У 1997 г. сьпявачка здабыла трэцюю прэмію на фэстывалі "Бэльвэдэр" у Вене.

Пры ўсіх Тацяніных дасягненьнях, многія опэрныя сьпевакі дагэтуль ставяцца да яе скептычна, чаго ня скажаш пра публіку. Спн.Трацяк набыла рэпутацыю адзінай беларускай вакалісткі, якая ўмее сьпяваць па-эўрапейску — інтэлігентна і вытанчана. У гэтым ёсьць доля праўды, хоць ёсьць і відавочнае перабольшаньне.

Кожная прэм'ера, кожны дэбют — цяжкі экзамен. Трацяк з чарговым экзаменам справілася амаль "на выдатна". За выключэньнем першай карціны, дзе ейны голас крыху дрыжаў, амаль уся партыя гучала дасканала. Асабліва ўдаўся ёй славуты "ліст Тацяны". Удачным аказаўся ня толькі вакал, але й сцэнічны вобраз Ларынай, поўны чысьціні і паэзіі.

Выдатна падтрымаў Тацяну і Сяргей Драбышэўскі (Ленскі), якога апошнім часам рэдка бачылі на беларускай сцэне: ён сьпяваў у Санкт-Пецярбурзе, Будапэшце і Маскве. Падобна, Драбышэўскі мае намер часьцей выступаць на роднай сцэне. Гэта быў бы вялікі набытак для тэатру, у якім лірычнага тэнара гэткае якасьці не было даўно. Цяпер Драбышэўскі з энтузіязмам развучвае партыю Калафа ў "Турандот".



Менш уразіла 23-гадовая студэнтка Аксана Бондарава ў ролі Вольгі. У яе ёсьць відавочны акторскі талент, але прыгожы голас яшчэ не дасьпеў. А вось Андрэй Марозаў у ролі Анегіна выступіў няўдачна — асабліва ў параўнаньні з травеньскім "Трубадурам". Засмуцілі й выканаўцы маленькіх партыяў. Затое аркестар пад кіраўніцтвам маэстра Анісімава іграў даволі добра, за выключэньнем сола габою, якое разбурыла ўвесь настрой у сцэне дуэлі.

Спадар Анісімаў актыўна ўдзельнічаў у абнаўленьні сцэнічнага вобліку спэктаклю. У 1995 г. маэстра ў якасьці дырыжора ўдзельнічаў у пастаноўцы "Яўгена Анегіна" ў Парыжы, у "Опэра Бастый". Цяпер ён спрабаваў перадаць акторам свой досьвед ад кантактаў з эўрапейскай рэжысурай. У выніку кардынальна зьмяніўся сам дух спэктаклю — ён перастаў быць мёртвай ілюстрацыяй да школьнага падручніка расейскай літаратуры. А значыцца, на яго зноў пойдуць людзі дарослыя.

**Ю.А.**

сваю дырыжорскую канцэпцыю. Выкананьне Другой сымфоніі Рахманінава было ягонай даўняй марай, ён наважваўся гэта ажыцьцявіць яшчэ ў 1996 г., але тады ня лёсіла.

Паначэўны таксама іграў добра, асабліва лірычныя эпізоды. Аднак спэцыфічная акустыка опэрнае залі, неспрыяльная для гучаньня фартэпіяна, псавала ўражаньне. Шматлікія тонкасьці выкананьня прайшлі па-за ўвагай публікі. Гук аказаўся нібыта прыглушаным, складалася ўражаньне, быццам Паначэўнаму бракуе маштабу і моцы. Між тым, у фінале конкурсу Чайкоўскага беларускага піяніста шэсьць разоў выклікалі на біс менавіта пасьля выкананьня Другога канцэрту!

Сэзон распачаўся зь сюрпрызаў, і можна не сумнявацца, што іх будзе яшчэ шмат. Месцы спатканьня з музыкаю могуць мяняцца, але музыка застаецца сабой — самым прыгожым мастацтвам у сьвеце.

**Юлія Андрэева**

**Пра новыя лекі, якія дапамагаюць даць рады некаторым сымптомам аўтызму (агрэсіі, празьмернай актыўнасьці, раптоўным выбухам злосьці), паведамілі дасьледнікі з ЗША на старонках часопісу *"New England Journal of Medicine"*.**

# Сродак ад аўтызму



Аўтызм — гэта парушэньне разьвіцьця, якое выяўляецца ў першыя тры гады жыцьця дзіцяці. Паводле статыстыкі, яно закранае адно дзіця зь пяцісот. Хлопчыкі пакутуюць на аўтызм у чатыры разы часьцей за дзяўчынак. Хворае дзіця зь цяжкасьцю кантактуе зь іншымі людзьмі, баіцца глядзець у вочы, неадэкватна рэагуе на гукі ці дотык, дрэнна гаворыць, памыляецца, ужываючы асабовыя займеньнікі (можа казаць "ты" падчас гаворкі пра сябе), не кантралюе ўласных рухаў.

Спэцыялісты, што працуюць зь дзецьмі, хворымі на аўтызм, зацікавіліся псыхатропнымі лекамі з групы т.зв. атыповых, якімі эфэктыўна лечаць шызафрэнію.

У дзіцячым навучальным цэнтры пры Ейльскім унівэрсытэце правялі клінічныя дасьледаваньні з выкарыстаньнем атыповага псыхатропнага сродку рыспэрыдону. Яны працягваліся восем тыдняў і ахапілі 82 хлопчыкаў і 19 дзяўчынак ва ўзросьце да 17 гадоў, хворых на аўтызм. Частка зь іх атрымлівала рыспэрыдон, а частка — неактыўнае злучэньне.

Аналіз вынікаў паказаў, што рыспэрыдон пасьпяхова справіўся з сур'ёзнымі адхіленьнямі ў паводзінах пацыентаў. Паляпшэньне было зафіксавана ў 69% дзяцей, якім давалі лекі, у параўнаньні з 12% дзяцей, што прымалі пляцэба. Аўтары падкрэсьліваюць, што гэта рэкордная эфэктыўнасьць для лекаў, якія калі-небудзь прымяняліся ў тэрапіі аўтызму.

Дзеці добра пераносілі рыспэрыдон. Адзіным заўважным пабочным эфэктам было набіраньне вагі — няпоўныя тры кіляграмы за восем тыдняў.

# Прафэсійная хвароба футбалістаў

**Запаволеная рэакцыя, адсутнасьць канцэнтрацыі, складанасьці з абстрактным мысьленьнем — усё гэта сымптомы прафэсійнай хваробы... футбалістаў! Такое адкрыцьцё зрабілі амэрыканскія вучоныя.**




Навукоўцы Сыманз Даўнз і Дэвід Абвэндэр аналізавалі псыхічнае здароўе 26 футбалістаў-аматараў (20 хлопцаў, 6 дзяўчат, сярэдні ўзрост 19,8 году) і 6 былых прафэсійных футбалістаў (сярэдні ўзрост — 42,9 году). Для параўнаньня была сфармаваная кантрольная група з 29 плыўцоў такога ж узросту. Усе прайшлі тэсты на вызначэньне ўзроўню разьвіцьця абстрактнага мысьленьня, здольнасьці засвойваць веды, хуткасьці рэакцыі, назіральнасьці й уважлівасьці.

Выявілася, што старэйшыя футбалісты мелі запаволеную рэакцыю і горш канцэнтраваліся ў параўнаньні як з маладзейшымі калегамі, так і з равесьнікамі-плыўцамі. Апрача таго, усе футбалісты прайгралі плыўцам у здольнасьці да абстрактнага мысьленьня. Такія парушэньні часта сустракаюцца ў прафэсійных баксэраў і ўяўляюць сабой адну з формаў энцэфаляпатыі. Калі, аднак, у баксэраў прычына ўзьнікненьня хваробы дастаткова відавочная, дык не наяўнасьць у футбалістаў зьдзіўляе. Адкуль яна бярэцца?

### Кропля галаву точыць

Прычынай могуць быць мікратраўмы мозгу, якія ўзьнікаюць пры адбіваньні мяча галавой. Вынікі ад іх накопліваюцца гадамі. Кожны прафэсійны футбаліст цягам сваёй спартовай кар'еры тысячы разоў "гуляе галавой". Гэта нямоцныя ўдары, і яны не выклікаюць стратаў прытомнасьці (як гэта бывае ў боксе). Але кропля камень точыць. Асабліва небясьпечныя для галавы "кручаныя" мячы.

Мікраскапічныя пашкоджаньні мозгу футбалістаў (асабліва лобна-скроневых доляў) не выклікаюць разладу ўсіх функцый. Чалавек з такімі траўмамі нармальна паводзіць сябе ў штодзённым жыцьці. Затое ён наўрад ці зможа зрабіцца праграмістам ці шахматыстам.

### Шлем для футбаліста

У 1904 г. пад ціскам прэзыдэнта ЗША Тэадора Рузвэльта былі ўнесены зьмены ў правілы амэрыканскага футболу, якія абмежавалі ўжываньне грубых прыёмаў падчас гульні і такім чынам скарацілі колькасьць сьмяротных ахвяраў сярод гульцоў. Пазьней футбалісты атрымалі шлемы, падобныя на матацыклетныя, што зьменшыла колькасьць траўмаў галавы. Апранаюць цяпер шлемы і баксэры-аматары. Ці не надышоў час падумаць пра такія рэформы і ў традыцыйным футболе? Карысна было б таксама азнаёміць усіх трэнэраў, ня толькі футбольных, з тэарэтычнымі і практычнымі зьвесткамі па траўматалёгіі галавы. Яны павінны зьвяртаць увагу на такія праблемы спартоўцаў, як пэрыядычныя болі і галавакружэньні, парушэньні ўвагі і памяці, хуткую стамляльнасьць, хваравітую рэакцыю на сьвятло і шум, звон у вушах, зьмены настрою і парушэньні сну.

Ня ўсе гэтыя сымптомы выкліканыя траўмамі галавы. Частка можа быць вынікамranічных перагрузак падчас трэніровак і выступленьняў. Так ці інакш, пры зьяўленьні такіх прыметаў спартовец мусіць часова "выйсьці з гульні".

# Чаму ежа бывае нясмачная

**Жывёліны, якія ў маленстве атрымлівалі разнастайны корм, пасталеўшы, з апэтытам спажываюць любую ежу. Тыя ж, якія ў першыя месяцы жыцьця елі адно і тое, і ў старасьці любяць адзін пэўны корм. Які — вырашаюць гены. Такое адкрыцьцё зрабіў польскі навуковец доктар Мацей Стасяк. Ягоная праца была зьмешчаная ў амэрыканскім часопісе *"Developmental Psychology"* (№3 за 2001 г.).**



### Рыба і мяса

Сярод біёлягаў дзесяцігодзьдзямі цягнулася спрэчка. Частка дасьледнікаў лічыла, што дарослыя жывёліны аддаюць перавагу той ежы, якой харчаваліся ў дзяцінстве. Па-навуковаму гэтая зьява завецца "дамінантай звычкі". Існаваньне гэтае дамінанты пацьвярджалі многія экспэрымэнты з рознымі жывёламі. Але іншая група навукоўцаў, ладзячы дасьледаваньні на такіх самых відах жывёлаў, выявіла процілеглую зьяву: паддосьледныя аддавалі перавагу новаму, таму, чаго яны ня елі ў дзяцінстве. Гэтую заканамернасьць назвалі "дамінантай навізны".

Каб разабрацца, што тут да чаго, д-р Стасяк узяў 8 кацянятаў. Першыя паўгоду жыцьця ён карміў іх выключна адным гатункам збалянсаванага корму. Палова кацянят ела корм з тунцом, а другая — зь ялавічынай. Наступныя паўгоду навуковец даваў усім катам па чарзе і тунца, і ялавічыну.

— Выявілася, што ўсе каты аддавалі перавагу тунцу, — апавядае вучоны. — Гэта зьбянтэжыла мяне, бо азначала, што палова зь іх мае "дамінанту звычкі", а палова — "дамінанту навізны".

А мо кацінае племя папросту ласае да рыбы, і ніякія набытыя рэфлексы яму тут не перашкода? Аднак знаёмыя доктара, што мелі катоў, сьцьвярджалі, што іхныя ўлюбёнцы ўмінаді корм зь ялавічынай ня горш за тунцовы. Яны елі і адно, і другое.

### Праўда праясьняецца

Д-р Стасяк распачаў чарговую фазу дасьледаваньняў. Наступнай партыі кацянятаў першыя паўгоду жыцьця давалі разнастайны корм, а потым перавялі на аднастайнае харчаваньне — тунец або ялавічыну. Выявілася, што жывёлы, страціўшы апэтыт (дзень пры дні адно і тое!), не аддавалі ніякай перавагі таму ці іншаму корму.

— Тады якраз да мяне і дайшло, што спрэчка паміж адэптамі "дамінанты звычкі" і "дамінанты навізны" беспадстаўная, — кажа біёляг. — Жывёлы маюць прыроджаную, генэтычна абумоўленую прыхільнасьць да пэўнага віду корму (у выпадку катоў гэта тунец). Праяўляецца яна, аднак, толькі ў тым выпадку, калі маладых жывёлаў увесь час кормяць аднолькавай ежай. Калі ж яны ў пачатковы пэрыяд жыцьця маюць разнастайны рацыён, прыроджаная прыхільнасьць застаецца "няўвыяўленай".

Паводле словаў навукоўца, вынікі дасьледаваньняў на катах могуць датычыць і людзей, бо многія законы прыроды маюць унівэрсальны характар. Ягоную гіпотэзу пацьвердзяць ці абвергнуць тыя навукоўцы, якія адшукаюць людзей, што ў дзяцінстве харчаваліся толькі нейкай адной ежай — напрыклад, рысам.

*Сяргей Санько, Аркадзь Шанскі з выкарыстаньнем "New England Journal of Medicine", "New Scientist", "Developmental Psychology", "Journal of Sports Medicine and Physical Fitness"*

# Унівэрсытэты пасварыліся

**Між двума найпрэстыжнейшымі амэрыканскімі ўнівэрсытэтамі — Ейльскім і Прынстанскім — выбухнуў канфлікт, які запатрабаваў умяшаньня ФБР. Адміністрацыя першай ВНУ зьвярнулася ў спэцслужбы з скаргай на калегаў з Прынстану, што ўзламалі іхны вэб-сайт.**



**Прынстан атакуе!**

Было зафіксавана 18 несанкцыянаваных пранікненьняў, і сьляды вялі менавіта ў Прынстан. У ліку ўзламаных апынуўся нават сайт для абітурыентаў, які працуе ўсяго некалькі тыдняў на год. Першая рэакцыя прынстанскай адміністрацыі была дзіўнай: маўляў, ня мелі дрэнных намераў, а толькі хацелі праверыць, наколькі сайт абаронены ад узломаў. Аднак ёсьць меркаваньне, што прынстанская прыёмная камісія шукала прозьвішчы абітурыентаў, якія падалі дакумэнты ў абодва ўнівэрсытэты адразу. У Амэрыцы абітурыент можа падаваць дакумэнты адразу ў мноства ВНУ: звыклых нам прыёмных іспытаў там няма, заміж іх ладзіцца конкурс дакумэнтаў. (Дарэчы, паспрабаваць свае сілы можна і зь Беларусі: варта толькі адправіць натарыяльна завераныя дакумэнты — рэкамэндацыйны ліст ад сваёй ВНУ, атэстат аб сярэдняй адукацыі, выпіску з дыплёму, транскрыпт (сьпіс праслуханых курсаў) — і пасьведчаньні пра здадзеныя тэсты TOEFL, GRE, GMAT і інш.)

Урэшце, старшыні прыёмнай камісіі Прынстану давялося разьвітацца з сваёй пасадай, а адміністрацыі ўнівэрсытэту — публічна выбачыцца. Зь юрыдычнага пункту гледжаньня здарэньне ацэняць адмыслоўцы з ФБР.

У Беларусі з 1998 г. дзейнічае 349 артыкул Крымінальнага кодэксу, які карае за незаконнае пранікненьне ў чужыя кампутарныя сыстэмы. Калі пры гэтым была нанесеная неістотная шкода — вінаватага караюць штрафам ці арыштам на тэрмін да 6 месяцаў. Максымальныя кары, прадугледжаныя гэтым артыкулам, — абмежаваньне волі на тэрмін да 5 гадоў ці пазбаўленьне волі на тэрмін да 7 гадоў. Ад пачатку 2002 г. па гэтым артыкуле КК распачатыя 6 крымінальных справаў.

## Славамір Адамовіч



### Сустрэча

Дванаццатага жніўня, у дванаццаць,
ты пазваніла. Я слухаўку зьняў
і голас твой пачуў, і дзённы шпацыр
на маналёг твой рэзка прамяняў.

Ты гаварыла... Ты мяне прасіла:
"...у Вязынку, у Лошыцу, альбо
ну хоць куды,
дзе ёсьць электрасіла
электрацягнікоў і праўды".

Я чуў — ня чуў, а ты мяне ўшчувала
за тое, што зьбіраюся зьяжджаць...
Не-не, ты пра каханьне прамаўчала,
але ў маўчаньні страсьць жыла кахаць.

Ты гаварыла... Я зьбіраўся з духам,
каб адказаць, каб нешта адказаць.
Здалося мне, што стаў я лёгкім пухам
і ўжо вось-вось пачну, як пух, лятаць.

Ты гаварыла: пра дачку, пра мужа,
пра тое, што пільнуе твой цябе,
што стала ты калючая, як ружа,
у вашае сямейнае брацьбе.

У рэшце рэшт сустрэліся мы ў пятым
тралейбусе, што йшоў, як трэба нам,
сустрэліся, як па вайне салдаты,
і тылавыя выпілі сто грам.

І праўда, мы пілі, ды не гарэлку —
шампанскае, і елі шакаляд...
Праз дваццаць год зьявіўшыся на
стрэлку,
Мы ў небе дня шукалі зарапад.

**24 жніўня 2002 г.**

* * *

Пяшчотную скуру маіх рук
любяць жанчыны рознага веку.
Так любяць стрэлы горла базук,
а цар вужыны — цёплае млека.

Жанчына пакліча — і я іду
на покліч, на позірк вачэй зялёных,
каб шэптам гарачым прагнаць жуду
і адгаварыць злыбяду праклёнаў.

Я моцны, пакуль я жанчыну люблю,
пакуль цалуюся зь ёй радыкальна,
а потым белы слухаю блюз
і ціха кажу сабе: усё нармальна.

Пяшчотную скуру вуснаў маіх
цалуе жанчына малога веку...
О, як цудоўна — жыцьцё на дваіх
і проста нармальным быць чалавекам!

**2000—2002 г.**

## Адам Глёбус

# Сьвяты Таўстун

апавяданьне





Лёс падкінуў аб'ект: была магчымасьць паназіраць за пераўтварэньнем чалавека ў сьвятога. Сачыў 8 гадоў.

Люблю людзей выключных, самабытных, з прыбабахам. Таўстуна заўважыў адразу. Як прамінуць дупу шырынёю ў чалавечы рост.

Падзеі разгортваліся ў каталіцкай Каталёніі, у гарадку Сычазе. Таўстун пераўтвараўся на маіх вачах з вар'ята ў Божага чалавека. Галоўнае — ён стаў сьвятым пры жыцьці.

Звычайна заб'юць, закатуюць, спаляць прынатоўпна, а потым у пакутніку запішуць, быццам не гвалтавалі і не ўкрыжоўвалі.

З Таўстуном іначай — прасьцей, паэтычней і па-людзку.

Пабачыў я яго і адразу зразумеў: ён не ў сабе. Прырода недадала яму мазгоў. З выгляду ён меў гадоў 20. Паўдуркі хутка сталеюць-старэюць, таму, можа, якіх 14 было. Барада адно прабівалася.

Круціўся Таўстунчык на скрыжаваньні між цукерачнай крамкаю і тапасам — буфэтам хуткага харчаваньня. Там стаячы можна перахапіць смажаную кілбаску з пансам — хлебам — ды каўтнуць колы. Прадавачкі давалі Таўстуну пачастункі за "проста так". Той еў ды ўсьміхаўся.

Я называў ласуньніка Адольфа, бо паўсюдна рэклямавалася парфума *Adolfo Dominho*.

Потым першая цікаўнасьць прайшла. Перастаў я сачыць за Адольфа. Не заўважаў яго гадоў пяць. Раптам сустрэў ізноў.

Ён пасівеў, цяпер яму цукеркі з каўбасамі — не спакуса. Са скрыжаваньня перабраўся ў зацішны рэстаранчык. Сядзеў з бутэлькаю вінаграднага, падфарбоўваў алькаголем вечаровую мэлянхолію.

Зь сяброўкай-бутэлькай ён і вылузнуўся з натоўпу. Не ўздымаючы дупы ад крэсла, Таўстун адасобіўся ад грамадзтва. Адбылося гэта ў часе фінальнага матчу футбольнага чэмпіянату. Чалавецтва ахапіла хваля псыхозу. Мільёны, а можа, мільярды глядзелі тэлевізар. Хто не глядзеў, той слухаў радыё.

Я — назіральнік за назіральнікамі — шпацыраваў па Сычазе, які паланіла футбольная манія. Тут Адольфа глядзіць такім спагадлівым позіркам, якім ніхто мяне ніколі не частаваў. Родная душа знайшлася.

Ён быў з тых, хто стаіць супраць усіх, калі ўсе вар'яцеюць.

Калі скажу, што Адольфа не ўспрымаў народных хваляваньняў, дык памылюся. Ён любіў каталёнскі фэст. Калі тры дні і тры ночы запар не сьціхае барабанны пошчак, калі на вуліцах танцаць пяціметровыя лялькі, а дзеці, пераапранутыя ў чартоў, бахаюць петардамі так, што над старажытным горадам стаіць воблака сіняга дыму.

Таўстун зьяўляецца на людзі ў белым касьцюме, падперазаны чырвоным пасам. Бел-чырвона-белы чалавек з лагодным тварам сузірае трохдзённае танчаньне.

Людзі падыходзяць да яго, вітаюцца, цалуюць. Таўстун сядзіць за круглым столікам, сівы, прасьветлены, сьвяты.

Мы любім яго. Любім больш за скульптуру старажытнага сьвятога, якую выносяць з касьцёлу мужчыны ў чорных касьцюмах і нясуць пад урачысты марш сымфанічнага аркестру. За скульптураю, як кінамафіёзныя пэрсанажы, сунуцца бацькі гарадка. Твары бульдожыя, як ва ўсіх сэнатараў, дэпутатаў і прэзыдэнтаў на сьвеце.

Людзі — шэльмы, распусьнікі і грэшнікі. Толькі Сьвяты Таўстун дарue нам грахі, дарue і адпускае.

Мы цалуем яму руку толькі за тое, што ён ёсьць сярод нас.

**25.08.2001**

**Фатаздымак і малюнак аўтара**

# Абразкі і абрэзкі

Кар'ера — гэта здаровае памкненьне мець неабходныя стасункі з усё больш вузкім колам людзей. Але з кожнай прыступкай зьмяняецца якасьць аселага там людзтва. Дый ці ня лепш заняцца чымсьці аднаасобна — творчасьцю або хоць зьбіраньнем бутэлек — каб ня мець неабходнасьці падтрымліваць непатрэбныя стасункі наагул.

* * *

Прыкрыў быў кубак з гарбатай спачатку складзеным лістком паперы, потым, дзеля таго што лісток гарбаціўся ды мераўся скруціцца, яшчэ й лёгенькай накрыўкай ад нейкай пляшкі. Спачатку папера выгіналася так моцна, што накрыўка ўзьнімалася, і здавалася, вось-вось сасьлізьне, зваліцца. Потым становішча стабілізавалася, хоць рагі паперчыны ўсё яшчэ пучыліся, распускаліся ды сьціскаліся, але ўжо самі сабою. Потым... потым я выйшаў у суседні кабінэт патэлефанаваць і ўжо ня ведаю, як яно стала, што паперчына зусім зьнерухомела. ...Так, блін, і з намі. Дык хоць бы толк быў, пакуль варушымся...

* * *

Можна забіць сябе адразу. Царква супраць, і правільна. Але нікога, а можа, і саму царкву, не цікавіць, што шмат хто забівае сябе "ў раздроб" — гуляе ў кампутарныя гульні, глядзіць сэрыялы ці "слабыя зьвёны", выпівае. А ёсьць жа шмат людзей, адмыслова прыстаўленых, каб чалавеку нічога не хацелася й не маглося, апроч кампутарных гульняў, пазіраньня ў шкляны экран ці ў шкляное бутэлечнае рыльца.

**Аляксандар Урбановіч, Гомель**

дні менскага жыцьця

# Добры дворык

Летам людзі адпачываюць і абнаўляюцца. Часам яны перажываюць незабыўныя прыгоды, якія цалкам пераварочваюць іхнае жыцьцё.

Гэтым летам перажыў такое наш звычайны менскі двор. Яго, як нечаканае каханьне, напаткала Вялікая хваля добраўпарадкаваньня, якая была захліснула наш мікраён са сьціплай балотнай назвай — Камароўка. За год вакол абноўленага рынку зьявіліся кветкавыя клюмбы, дэкаратыўныя ліхтары, хвалюючыя фантаны. Прыплылі, нібы з будучыні, белыя параходы-паркінгі. І паўсюль пад нагамі непрывычных да вялікае ўвагі пешаходаў — плітка, плітка, а дзе-нідзе — круглыя сінія мазаічныя "хвалі" й "віры"...

Гэтая сіла затапіла і лапік нашага двара, утвораны паўтузінам пяціпавярхоўкаў.

Шум, крык, лямант, пярэпалах! Самаробныя ўлёткі, раскіданыя па паштовых скрынях: "Абаронім нашых дзяцей!.. Не аддамо двара!"

Няўмольнае штодзённае стракатаньне машынаў пад вокнамі. Чужыя людзі ў яркім спэцадзеньні, злыя да работы і вясёлыя да мясцовых прыгажунь і сабак. Прыезды начальства, рабочыя нарады ля самых беражкоў вытворчага працэсу.

Паступова недавер жыльцоў зьнікаў. А першапачатковыя слоганы кшталту "Няхай застаецца ўсё як ёсьць, бо можа стаць яшчэ горш!" нібы апускаліся на дно ракі Часу, якая нясе, варочае ў сваёй магутнай плыні нават валуны плянэтаў...

У канцы лета выявілася, што рабочыя нам пакінулі "добры дворык". Зьявіліся выкладзеныя пліткай дарожкі, раней чамусьці адсутныя. Яны ідуць ад пад'ездаў да дзьвярэй да цэнтру двара і далей, шматкроць перакрыжоўваючыся. Паўсюль стаяць лавачкі.

У двор прывезеная новая зямля, і на ёй хутка зязелянела пасеяная трава. Зялёныя лапікі травы чаргуюцца з шматкутнікамі, сэгмэнтамі сьвежага жоўтага пяску і расьцёртай чырвонай цэглы на



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

дзіцячых пляцоўках. Усё покрыва двара сталася падобным да вялікага хатняга пэчварку з аблямовачнай стужкаю — роўнай дарогай для аўтамашынаў.

Дзіцячыя пляцоўкі ўпрыгожылі дзьве сьпіралі вінтавых горак, жоўтая і ружовая: нешта касьмічнае і вельмі сучаснае! (А мы ў дзяцінстве зьяжджалі ўніз па "хобатах" драўляных азіяцкіх "сланоў".) Побач — арэлі, лесьвіцы...

...Каля рогу аднаго з будынкаў дарожка з пліткі звужалася ўдвая: жыхары дому не захацелі разьвітацца з кустом бэзу пад вокнамі.

Добры дворык.

**Людка Сільнова**

# Таварышу Мясьніковічу,

## *начальніку над Акадэміяй навук і чалавеку*

Таварыш Мясьніковіч!

Прыбліжаецца гадавое сабраньне даверанай Вам Акадэміі, на якім будуць выбіраць новых акадэмікаў і, пардон, членаўкарэспандэнтаў.

Ня ведаю, ці будзеце балатавацца ў акадэмікі Вы — гэта Вашае лічнае дзела. Але ёсьць дзяла, імеюшчыя ісключыцельнае абшчэсьцьвенна-навучнае значэньне. Гэта пазор і ганьба, што сярод дзяйсьцьвіцельных членаў АНБ ня значыцца прозвішча Лукашэнкі А.Р. Я шчытаю, што Лукашэнка А.Р. даўжон ужо даўно быць акадэмікам.

Думаю, што Лукашэнка А.Р., як гісторык па адукацыі, даўжон стаць акадэмікам гісторыі. Па-першае, ён упісаў ужо не адну страніцу ў гісторыю Беларусі. Па-другое, ён уносіў і ўносіць выдаюшчыся ўклад у разьвіцьцё гістарычнай навукі. Яму прынадляжаць два фундамянтальныя адкрыцьці.

Першае — што ва ўрэмя вялікай ацечасьцьвяннай вайны Беларусь пацярала кожнага трэцяга жыхара. А пры Машэраве ж і пазьней ашыбачна лічылася, што кожнага чацьвертага. Значыць, у адпаведнасьці з новымі фактамі, у Хатыні нада будзе пасадзіць не чатыры, а тры бярозкі і адну зь іх сьсячы. І ў вучэбнікі ўнясьці зьмены.

Другое адкрыцьцё: Лукашэнка А.Р. аўтарытэтна ўстанавіў, што падзяліць Беларусь і ўключыць яе ў склад Расіі — "нават Сталін да гэтага не дадумаўся".

З гэтага вынікае ўраньнё нацыяналістаў, лічна Пазьняка, Вячоркі і іх дружка Шушкевіча: што ў январы 1919 г. — пры Леніну — са складу БССР былі ісключаны і ў склад РСФСР уключаны Смаленская, Віцебская і Магілёўская губэрні.

Але ня толькі нацыяналісты ўралі. Нават, ізьвініце, таварыш Ленін няпраўду пісаў, што таварыш Сталін у 1922 г. хацеў уключыць БССР, УССР і Закаўкаскую Фэдэрацыю ў склад РСФСР. Думаю, што аўтары падручнікаў пад кіраўніцтвам Сташкевіча М.С. вычаркнуць гэты мамэнт з гісторыі Беларусі як нясслушны.

Трэба таксама павырэзваць адпаведныя лісты з 45-га тому 5-га іздання сачыненьняў Леніна. А аддзельныя брашуркі зь пісьмом Леніна пра сталінскі плян аўтанамізацыі — папаліць.

Так што, таварыш Мясьніковіч, вызавеце дырэктара Інстытуту гісторыі Сташкевіча М.С., каб ён праявіў ініцыятыву і высунуў кандыдатуру Лукашэнкі А.Р. у дзяйсьцьвіцельныя члены Акадэміі. На Аддзяленьні абшчэсьцьвенных навук гэтая кандыдатура пройдзе на "ўра". А на Агульным сходзе нада правесьці адкрытае галасаваньне. Пабачым, ці асьмеліцца хто галасаваць "проціў".

Праўда, можа зьявіцца прапясьцьвіе. Ходзяць чуткі, што кандыдатуру Лукашэнкі А.Р. у акадэмікі хоча высунуць Інстытут літаратуры. Але вы пасаветуйце дырэктару Інстытуту Гніламёдаву У.В. паддзяржаць кандыдатуру Лукашэнкі А.Р. у акадэмікі гісторыі, бо фундамэнтальнае адкрыцьцё (што Васіль Быкаў вершы пісаў і пячатаў) касаецца такжа гісторыі, але гісторыі літаратуры.

З пажаданьнем посьпеху
**— Граждан.**


IREX-PROMEDIA

## Сабачыя гісторыі



**Адзін сабака любіў** глядзець, як у вырай адлятаюць журавы. Граждану падабаліся вароны, і ён часта прасіў іх, каб яны яго не пакінулі аднаго перад халоднаю зімой.

**Адзін сабака любіў** восень за яе прыгажосьць. Граждан любіў восень за доўгія вечары, у якія ён гнаў самагонку.

**Адзін сабака любіў** холад. Граждану гэткае надвор'е не падабалася, і ён гаварыў: "У Савецкім Саюзе такіх каталкізмаў не дапускалі. А цяпер разьвялі дэмакратыю, што цэлае лета дажджу не было..."

**Аднаму сабаку было** халодна, і ён спаў у кажуху. Граждану было халодна, і ён усю ноч не даваў заснуць суседзям.

**Адзін сабака начамі** глядзеў лёгкую эротыку. Граждан ноччу хадзіў на калгаснае поле і зьбіраў мерзлыя караняплоды.

**Аднаго сабаку пахвалілі** на зьезьдзе пісьменьнікаў. Граждан пакрыўдзіўся, што не яго, прыйшоў дамоў і выгнаў з хаты жонку і дзяцей.

**Адзін сабака не паехаў** на зьезд пісьменьнікаў, бо не было за што купіць білет на цягнік. Граждан прыйшоў пяшком і цэлы дзень прасядзеў моўчкі, а потым усю ноч піў і хваліў новае кіраўніцтва.

**Адзін сабака агітаваў** за зьезд пісьменьнікаў у Доме літаратара. Граждан агітаваў ісьці ў тэатар, бо там мяккія крэслы.

**В.Ш.**

## КОШТЫ



**на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 16):**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) 240 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) 300 руб.
— афармленая абвестка 155 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету ад 200 руб. за кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак. Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту перавадам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, "Наша Ніва", Менск, Калектарная 20а, п.2а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвестбанк" Менску, код 763.

## прыватныя абвесткі



### дом

**Прадаецца жылы** дом (6,5х8,5м). Прыродны газ, гаспадарчы будынак (клуня, хлеў), склеп, сад, агарод (30 сот.). Цана прыкладна 3000 у.а. С.Казловіч. Вул.Маскоўская, 2, вёска Горск, Бярозаўскі р-н, Берасьцейская вобласьць (пры старой дарозе Берасьце—Менск, 4 км ад новай)

**Здыму пакой** у шматкватэрным доме ў Зас-лаўі альбо ў бліжэйшым населеным пункце па ходзе электрычкі. Т.: (у Барысаве): (277) 36-9-29. Сяржук

**Здыму** 1-пакаёвую кватэру ў Менску. Т.: 506-60-09 (8.00—16.00). Сьвятлана

### плітка

**Плітка для сьценаў**, 1-ы гатунак — 7500 руб. м², 3-ці гатунак — 5100 руб. Т.: 262-46-30

### вітаньні

**Віншую сп.Юрася Бушлякова** з новым годам (навучальным). Зычу кемлівых студэнтаў і такіх вучняў, як ты. Zidzi

**Прывітаньне ўсім**, хто быў на Басовішчы. Няшмат засталося чакаць наступнага. Не сумуйце. Паліна

### ідэі

**Прапаную** ўсталяваць два помнікі (у любым горадзе): сьвятым ненароджаным дзецям (ля гінэкалёгіі) і нявінна асуджаным людзям (ля пракуратуры). Хрысьціянін

**Palina**, mo chopić kryŭdzicca?!? Soniejka, telefanuj. Sumuju...

**Усялякія размовы** аб нейкай "саюзнай дзяржаве" абражаюць мой нацыянальны гонар! Беларус

**"Мы — партызаны**, любім наш край, ачысьцім наш край ад чужынскіх зграй!" Сапраўдным патрыётам прысьвячаецца. Zdac

**Беларусь** ператварылася ў Русь. Адраджэньне дзесьці заблукала. Патрэбны нацыянальна-вызвольны супрацiў, каб ня зьнікнуць назаўжды. Zdac

**Хай у таго**, хто прыдумаў дзесяцібальную шкалу, вырастуць у носе зубы. **Наталька**! Ты абяцала .. **Янка**! Ты абяцала... **Дзянісе**! Ты абяцаў... Zidzi

**Як можна** паважаць народ, які ператварыўся ў бязглузды статак?!

**Катлеты** чакаюць заможных мух. Прыказка. 220073, Менск, а/с 71

**Партызанскае** рушэньне — годны адказ акупантам

### кантакты

**27 верасьня ў клюбе "Тунэль"** (пр. Пушкіна, 28) гурт "Ветах" выступае з канцэртам "У абдымках сонца". Пачатак у 19.00. Кошт квіткоў 2000 папярэдне, 3000 — у дзень канцэрту

**Царква эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў** "Новая зямля" запрашае на набажэнствы штонядзелю а 15-й, на Чайкоўскага, 37

**Студыя маральна-этычнага** выхаваньня дзяцей распачынае працу з кастрычніка 2002 г. Мова заняткаў — беларуская. Запіс кожную нядзелю з 14.15 па адрасе: Чайкоўскага, 37, Менск

**Набіраю хлопчыкаў**-шасьцігодак на бясплатныя заняткі футболам (суб. — нядз. а 14-й), Машэрава, 22

**Маладых мастакоў** і фатографаў запрашем узяць удзел у праекце "Існасьць мінулага". E-mail: besyanyatka@mail.ru

**Запрашаем** 5-гадовых дзетак у групу падрыхтоўкі да школы. Заняткі праводзяцца па-беларуску. Т.: 288-68-91, пасьля 21.00. Ігар і Ганна

**Прапануем для дзетак** 6—7 гадоў заняткі ўшу. Праводзяцца яны па-беларуску. Т.: 288-68-91, пасьля 20.00. Ігар і Ганна

**Спадарства**! Хто мае пераклады беларускай літаратуры на ангельскую (нямецкую, францускую і г.д.) мовы, дашліце, калі ласка. Бо спазнаньне нашай літаратуры для замежнікаў — гэта спазнаньне нашай душы. А/с 26, 212040, Магілёў, firstgymnasium@tut.by

**Шукаю кантакты** з экалягічнай арганізацыяй (групоўкай), яе сябрамі. Т.: 282-80-01 (Янка)

**Шукаю новых** саюзьнікаў па жыцьці. А/с 71, 220073, Менск-73

**Куплю тэлефонны** даведнік Саюзу пісьменьнікаў РБ. Т.: 254-77-59 (Алесь)

**Цэнтар вывучэньня** Skinheads. Дасылайце вашу інфармацыю — будзем вельмі ўдзячныя. А/с 18, 224023, Берасьце.

**Меч**, я разам з табой. Адам

### кнігі, музыка

**Гісторыя маёй вандроўкі** Туды й Назад на беларускай мове ёсьць па адрасе www.radzima.by — пытайцеся. Хобіт Більба Торбінс

**Куплю 1, 2, 3 тамы** Беларускай энцыклапэдыі. Т.: (0222) 45-40-38. Пэйдж.: (0222) 22-53-22, аб.1110. lenin@tut.by

**Сучасныя беларускія** часопісы і кнігі на любы густ. Замаўляйце і чытайце! А/с 714, 222120, Барысаў-1

**Беларускія незалежныя** часопісы й кнігі ў Маладэчне. Ёсьць кнігі У.Мартыненкі. Т.: (8-273) 30-0-20, аб.885

**Кнігу Зьмітра Бартосіка** "Чорны пісталет" набуду. А/с 29 "А", 220073, Менск

**Беларускія CD**, касэты, майкі, кнігі і інш. У Мазыры. Т.: 30-7-13. Юрась

**Куплю кнігу** сп. Мартыненкі "Катуй мяне, ратуй мяне". Т.: 254-77-59 (Аляксей)

### праца

**Танна распрацуем** сайт любой складанасьці. Т.: 211-85-85, аб.1976. E-mail: alehiv_st@tut.by

Гэты нумар "Нашай Нівы" выйшаў дзякуючы ахвяраваньню спадара Сяргея Дубаўца.

## паштовая скрынка



**Т.Л. зь Менску.** Твор будзе надрукаваны. Праўда, ад пісьменьнікаў папярэдняга пакаленьня Вы запазычылі тое, што ў іх найслабейшае, — форму, гэтыя адвечныя "старонкі зь ненапісанага раману". Хадзеце далей: пішэце апавяданьне, пасьля аповесьць, нарэшце, раман. Не спыняйцеся на "спробах пяра".

**Ігару Ж. зь Менску.** Газэты на лацінцы цяпер не выходзяць ніякай, калі не лічыць бюлетэняў прыхільнікаў "лацьвінства". На лацінцы шмат каму цяжка чытаць, бо гэтаму ў школах ня вучаць, хоць мусілі б, таму што лацінскі правапіс — частка нашае культурнае спадчыны, ім пісалі Марцінкевіч, Багушэвіч, Купала, Луцкевіч, Гадлеўскі ды іншыя выдатныя людзі. І гэта не адзіны прыклад убоства нашае школьнае адукацыі — людзі сканчаюць 10 клясаў і ня ўмеюць ні на роднай, ні на замежнай мове гаварыць.

**Z.P. з tut.by.** Пра расейскія нафтавыя кампаніі — ня ўсё ясна для людзей, якія за гэтым спэцыяльна ня сочаць. Пра зьмены курсаў акцый на Лёнданскай біржы — гэта як пра іншы сьвет, беларусаў нібы не зачапае. Каб зацікавіць, патлумачце, як гэта на нас адаб'ецца.

## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**





Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2 Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3676.

Нумар падпісаны ў друк 25.09.2002.

Замова № 6054

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а